наша
# СВАБОДА

№52(139) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 ТРАЎНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Рух да новага прэзідэнта

*21 траўня ў Мінску абвешчана пра стварэнне новага грамадскага руху пад умоўнай назвай «За абранне народнага прэзідэнта». Рух узначаліў экс-міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў. Былы палітвязень, у кастрычніку мінулага года вызвалены па амністыі з Аршанскай калоніі – палову тэрміну з чатырохгадовага тэрміну зняволення ўзмоцненага рэжыму В.Лявонаў ужо адбыў, вярнуўся ў вялікую палітыку. «Я не хацеў займацца палітыкай і не планаваў займацца выбарамі. Да таго часу, пакуль не зніклі многія вядомыя палітыкі. Калі я даведаўся, як знік генерал Захаранка, якога я блізка ведаў як чалавека, як генерала, як міністра, прычым знік пры абставінах дзіўных (за ім было ўстаноўленае пастаяннае вонкавае сачэнне, але генерал знік), вось тады я і прыняў рашэнне займацца палітыкай. І буду займацца да той пары, пакуль у Беларусі не будзе заменены рэжым», — патлумачыў В.Лявонаў.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

● На здымку: Васіль Лявонаў і Ніл Гілевіч

Намеснікам старшыні руху стаў Іван Атрошчанка, абраны таксама выканкам руху з 11 чалавек, у які ўвайшлі вядомыя на Беларусі людзі: паэт Ніл Гілевіч, былы прадстаўнік Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін, Яўген Лугін, Людміла Карпенка ды іншыя.

«Мы, ініцыятыўная група грамадзянаў Беларусі – розных узростаў, прафесіяў, палітычных поглядаў, вызнання – прынялі рашэнне звярнуцца да беларускага народа з заклікам стварыць шырокі грамадскі рух для абрання новага прэзідэнта. Мы не ставім сваёй мэтай персанальную барацьбу менавіта з цяперашнім, мы ставім мэту выбраць новага прэзідэнта як неабходную ўмову для далейшага развіцця Беларусі, таму што з імем А.Лукашэнкі звязаная абсалютная большасць негатыўных з'яваў. Мы абвяшчаем, што далучаемся да тых грамадзянаў, якія імкнуцца пабудаваць суверэнную, незалежную, цывілізаваную і сапраўды квітнеючую краіну – Беларусь. Мы перакананыя ў тым, што пры цяперашнім рэжыме дасягнуць гэтых мэтаў немагчыма», — так патлумачыў Васіль Лявонаў прычыны, якія рухалі арганізатарамі пры стварэнні руху назваю «За абранне народнага прэзідэнта».

Заканчэнне на стар.3

ЮБІЛЕЙ

## 10 гадоў «Нашай Ніве»

*Сваё 10-годдзе адзначае адна з найстарэйшых беларускіх незалежных газетаў – «Наша Ніва». Галоўны рэдактар НАШАЙ СВАБОДЫ Павел Жук быў адным з тых, хто адраджаў «Нашу Ніву» з 75-гадовага небыцця. Да сённяшняга дня ён – афіцыйны заснавальнік аднойменай «Нашай Нівы». Прапануем вам інтэрв'ю з Паўлам Жуком.*

***— Як узнікла ідэя адрадзіць «Нашу Ніву»?***

— Ідэя існавала даўно. Калі толькі пачынаўся Беларускі Народны Фронт, яе агучваў Зянон Пазьняк. Але ён не быў першы, ідэя фактычна была ў паветры.

Мы ўсур'ёз задумаліся над гэтым недзе ў 1989 годзе. І калі наша выдавецкая частка сышла з газеты «Навіны БНФ» – гэта былі Сяргей Дубавец, Алесь Гуркоў і я – то пачалі са стварэння газеты СВАБОДА. Галоўным рэдактарам стаў С.Дубавец. Мы друкавалі яе ў Латвіі. А недзе праз год пасля заснавання СВАБОДЫ С.Дубавец сказаў, што надышоў час выпускаць газету «Наша Ніва».

«Наша Ніва» была для нас у той час і застаецца цяпер легендай беларускай прэсы, легендай беларускага Адраджэння. Таму гэтая газета проста павінна была ўзнікнуць. Асноўным натхніцелем быў Сяргей Дубавец.

У той час мы якраз пазнаёміліся з Ігарам Германчуком, які пагадзіўся стаць рэдактарам СВАБОДЫ. Вырашылі, што СВАБОДА будзе рэзка палітычнай, крытычнай, апазіцыйнай да любога ўрада, як нармальныя свабодныя газеты ва ўсім свеце.

Заканчэнне на стар.5

## У Беларуси – перспективы Туркменистана

Туркменский посол в Минске Илья Вельджанов доволен результатами Всебелорусского народного собрания 18 мая:

«В Туркменистане такие мероприятия проводятся ежегодно с первого года создания нашего государства. В нем участвуют делегаты из всех районов и сел страны. На последнем собрании, которое состоялось в прошлом году, принята программа социально-экономического развития государства до 2010 года. Тогда же и был принят конституционный закон, что для первого нашего президента Сапармурата Ниязова срок полномочий пребывания на этом посту не ограничен. Это было требование всего народа, поддержанное нашим собранием», — заявил И.Вельджанов.

«Что касается вашего высокого собрания, то оно, действительно, продемонстрировало неиссякаемые силы и разум вашего народа», — отметил дуайен минского дипломатического корпуса и сказал по поводу главного докладчика на собрании Александра Лукашенко: «Думаю, на предстоящих в этом году президентских выборах он получит всенародную поддержку».

По мнению туркменского посла в Минске, А.Лукашенко сможет в случае повторения многолетнего опыта С.Ниязова добиться таких же успехов, как в Туркменистане: «Теперь у Беларуси есть ясные планы, есть настоящий руководитель, который, я убежден, приведет страну к расцвету и повышению благосостояния народа».

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)



## КНГ АБСЕ не прымае пагрозаў

Кансультатыўна-назіральная група (КНГ) АБСЕ ў Беларусі «лічыць крытыку і пагражаючае стаўленне намесніка прэм'ер-міністра - міністра замежных спраў Беларусі неапраўданымі», гаворыцца ў паведамленні КНГ АБСЕ ад 22 траўня.

Нагадаем, што на брыфінгу 17 траўня кіраўнік беларускага МЗС Міхаіл Хвастоў заявіў аб намеры беларускіх улад разгледзець пытанне аб далейшым знаходжанні на тэрыторыі краіны кіраўніка КНГ АБСЕ ў Мінску пасла Ханса-Георга Віка, калі ён «будзе далей працягваць дэструктыўную дзейнасць». «Мы вельмі ясна далі зразумець паслу, што больш урад не будзе цярпець дзейнасць, накіраваную на кансалідацыю намаганняў па дэстабілізацыі сітуацыі ў краіне. Папярэдне мы паведамім кіраўніцтву АБСЕ і прадставім адпаведныя матэрыялы, якія гавораць аб дэструктыўнай дзейнасці кіраўніка місіі», — сказаў Міхаіл Хвастоў.

У паведамленні Кансультатыўна-назіральнай групы гаворыцца: «Некалькі разоў КНГ АБСЕ тлумачыла пазіцыю, якая сфарміравалася ў выніку кансультацыяў АБСЕ па развіцці сітуацыі ў Беларусі і работы КНГ АБСЕ. Нельга адмаўляць існаванне сур'ёзных рознагалоссяў, і гэта павінна прывесці да новых намаганняў, скіраваных на пераадоленне гэтых разыходжанняў. У святле кансультацыяў, праведзеных з дзеючым старшынёй 18 траўня 2001 г., КНГ АБСЕ гатова прадоўжыць супрацоўніцтва з урадам у падтрымку працэсу дэмакратычных трансфармацыяў краіны. З нагоды Стамбульскага саміта ў лістападзе 1999 г. кіраўнікі дзяржаваў і ўрадаў праінструктавалі Кансультатыўна-назіральную групу АБСЕ ў Беларусі прадоўжыць супрацоўніцтва з урадам, апазіцыйнымі партыямі і няўрадавымі арганізацыямі, каб садзейнічаць вырашэнню канстытуцыйных рознагалоссяў і дапамагчы ажыццявіць свабодныя і справядлівыя выбары. Кансультатыўна-назіральная група так і рабіла і адпаведна паведамляла дзеючаму старшыні АБСЕ і Пастаяннаму савету ўсіх краінаўчленаў АБСЕ».

У паведамленні КНГ таксама адзначаны «нядаўнія публічныя заявы прадстаўнікоў КДБ», якія «накіраваныя на дыскрэдытацыю Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў вачах беларускай грамадскасці». Як патлумачылі БелаПАН у КНГ АБСЕ, размова ідзе пра выступленне 20 траўня ў праграме «Рэзананс» Беларускага тэлебачання начальніка Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Фёдара Котава, які абвінавачваў кіраўніка місіі АБСЕ ў Беларусі ў дэструктыўнай дзейнасці.

Ірына ЛЕЎШЫНА

## «Зубр» прыдумаў новую акцыю

Незвычайная акцыя незарэгістраванага руху «Зубр» пад назвай «Мы прыйшлі» адбылася 20 траўня ў Мінску. Каля тысячы «зубраўцаў» прайшлі па ходніках праспекта Скарыны ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці. Міліцыянты спробаў затрымання ўдзельнікаў акцыі не рабілі, бо сябры «Зубра» не мелі ніякай атрыбутыкі. У кіраўніцтве руху даводзяць, што акцыя мела на мэце паказаць уладзе, што ў выпадку нерэгістрацыі кандыдата на прэзідэнцтва ад апазіцыі народ гатовы масава выйсці на вулічныя пратэсты.

## Радыёфікацыя ўсёй краіны

Як паведаміла Радыё Свабода, міністэрства сувязі і мясцовыя ўлады распачалі кампанію аднаўлення праваднога радыёвяшчання ў тых вёсках, дзе яно мінулымі гадамі было па тых ці іншых прычынах скасаванае. Тых вяскоўцаў, хто адмаўляецца ад радыёкропак, заносяць у адмысловы спіс. Да ўсяго вядзецца перапіс радыёпрыёмнікаў.

## У памяць Багдановіча

У дзень памяці Максіма Багдановіча 25 траўня, калі ён памёр, аматары ягонай паэзіі збяруцца а 12 гадзіне ля помніка паэту ў Мінску. Будуць ускладзеныя кветкі, з патрыятычнымі песнямі выступіць хор беларускага нацыянальнага руху "Адраджэньне", які днямі адзначыць трохгоддзе існавання.

## Цэны ўпарта растуць

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі, за першыя два тыдні траўня рост спажывецкіх цэнаў у Беларусі склаў 1,3%. Усяго з пачатку года спажывецкія цэны ў Беларусі павялічыліся на 18,3%.

## Беларусь прадстаўляе брэсцкая гарэлка

На самай буйной у Еўропе міжнароднай выставе-кірмашы алкагольных напояў, якая праходзіць у Лондане з 21 па 26 траўня, Беларусь прадстаўляе Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод.

Там будзе рэпрэзентавана гарэлка «Беларусь», "Палярная», «Беларуская», «Сталіца», «Бярозавая», «Какосавы лікёр». Разам з тым кіраўніцтва завода збіраецца правесці перамовы з бізнесоўцамі Вялікабрытаніі, ЗША, Канады і іншых краінаў наконт таго, каб пастаўляць туды сваю прадукцыю.

НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1380

# Рух да новага прэзідэнта

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

В.Лявонаў сцвярджае, што новы рух не збіраецца ствараць канкурэнцыю палітычным партыям краіны. «Мы не выступаем апанентамі ні адной палітычнай сілы Беларусі, нікога нідзе не збіраемся падмяняць ці ўшчамляць іхнія інтарэсы». Больш за тое, дапамагаючы апазіцыйным прэтэндэнтам прыйсці да ўлады, рух абвяшчае свабоду дзеяннаў кандыдатаў і іхнюю незалежнасць. «Мы не выступаем за асабістую ўладу, і ў нашым звароце так і гаворыцца, што зноў абраны прэзідэнт вольны ад таго, каб каму-небудзь з нашага руху потым раздаваць пасады. Мы будзем падтрымліваць тых кандыдатаў, якія здольныя забяспечыць рэалізацыю праблемаў, што стаяць перад нашай краінай, а дзе трэба – паступіцца і асабістымі амбіцыямі ў імя нашай дзяржавы».

Прысутныя на ўстаноўчым сходзе аднагалосна прагаласавалі за зварот ініцыятараў стварэння руху. Неабходнасць у галасаванні была патлумачаная выкраданнем часткі подпісаў. Гэта адбылося ў ноч з 19 на 20 траўня. Адзін з найактыўных стваральнікаў руху старшыня Саюза жыллёва-камунальных кааператываў Іван Анташкевіч вяртаўся вечарам дахаты. Пры ім на той момант якраз і знаходзілася частка подпісаў ініцыятараў руху. Гаворыць І.Анташкевіч:

«У 11 гадзінаў вечара я вяртаўся дахаты – у мяне была частка спісаў. Пры ўваходзе ў дом я адчуў ззаду нейкі рух, абярнуўся – да мяне накіраваўся адзін з двух мужчынаў. Я быў збіты да беспрытомнасці, а калі прыйшоў у сябе, дык чамусьці быў на Гвардзейскай, хаця жыву ў раёне вуліцы Мельнікайтэ. Што са мной было — не памятаю». В.Лявонаў упэўнены ў заказным палітычным характары нападу, які інсцыяваны пад рабаўніцтва. «Усё, што ў яго было, знікла, у тым ліку і грошы. Ён страціў прытомнасць у пад'ездзе ўласнага дома,ды яго яшчэ і адцягнулі ад дома. Гэтым разам, трэба сказаць, заказчыкі ўдасканалілі сваю работу: яны спрацавалі пад крымінальнікаў», — падкрэсліў В.Лявонаў.

Відавочна, што рух назваю «За абранне народнага прэзідэнта» створаны пад «пяцёрку» апазіцыйных прэтэндэнтаў. Нездарма ў анонсе мерапрыемства было сказана: «21 траўня адбудзецца прэс-канферэнцыя Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Сяргея Калякіна, Паўла Казлоўскага і Міхаіла Чыгіра. Тэма – «стварэнне грамадскага руху назваю "За абранне народнага прэзідэнта"». Пры гэтым напярэдадні акцыі і М.Чыгір, і С.Калякін катэгарычна заяўлялі, што яны не маюць ніякага дачынення на новага руху і, як і журналісты, проста запрошаныя на сход.

Старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык быў больш адкрыты ў сваіх каментарах. «Рух створаны перш за ўсё дзеля дасягнення перамогі, каб у Беларусі з'явіўся новы прэзідэнт. А дзеля таго неабходная кансалідацыя ўсіх сілаў, якія выступаюць за перамены. Рух будзе дзейнічаць у рамках існуючай «пяцёркі»; магчыма – калі такое здарыцца і з'явіцца больш дастойны палітык – то мы гатовыя яго падтрымаць. Але сёння важна кансалідаваць усіх, хто пераканаваны, што змены магчымыя. А нашая ўпэўненасць, што гэта неабходна і што ёсць магчымасці дасягнуць перамогі на выбарах – я не сумняваюся, гэта сапраўды рэальна». Рух «За абранне народнага прэзідэнта» арыентуецца на розныя сацыяльныя слаі. Гэта і рабочыя, гэта і вёска, што надзвычай важна, бо там у Лукашэнкі большая падтрымка, гэта і інтэлігенцыя – усе, хто думае пра будучыню Беларусі», — мяркуе У.Ганчарык.

Пад заслону мерапрыемства Васіль Лявонаў заклікаў пэўныя расійскія колы «адумацца» і адмовіцца ад падтрымкі А.Лукашэнкі і яго хаўруснікаў. «Вы тым самым убіваеце клін паміж братэрскімі народамі», — падкрэсліў лідэр руху. Палітык заклікаў прысутных «ўбраць гэтую карту з рук шулера – карту расійска-беларускай дружбы». «Мы павінны жыць разам – і не толькі з Расіяй. Мы – за дружбу з Расіяй, але пры ўмацаванні нашага суверэнітэту. Наш дом мусіць быць нашым домам, а вялікі расійскі дом мусіць быць нашым сябрОўскім домам.

Мы ўпэўненыя ў нашай перамозе. Пра гэта сведчаць кантакты, якія падтрымліваюцца з усімі слаямі нашага насельніцтва. І трэба гэтую ўпэўненасць несці да людзей», — падкрэсліў Васіль Лявонаў.

**Рыгор БУЯН**


Фота Ул.ШЛАПАКА
Іван Анташкевіч


Віктар Ганчарык і Павел Казлоўскі


Міхаіл Чыгір і Сямён Домаш

**ЮСТЫЦЫЯ**

## Еўрапарламент за Юрыя Бандажэўскага

Дзяржаўнае абвінавачванне просіць суд прыгаварыць былога рэктара Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута прафесара Юрыя Бандажэўскага да 9 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Такі вынік першага дня судовых спрэчак, што пачаліся 21 траўня, па крымінальнай справе ў дачыненні да супрацоўнікаў Гомельскага дзяржаўнага мединстытута, якія абвінавачваюцца ў хабарніцтве і злоўжыванні службовым становішчам.

Аналагічнае пакаранне бок абвінавачвання прапануе і для былога прарэктара ВНУ Уладзіміра Раўкова. Таксама, на думку абвінавачвання, падпалкоўнік медыцынскай службы Раўкоў павінен быць пазбаўлены вайсковага звання.

У дачыненні да членаў прадметных экзаменацыйных камісіяў па беларускай мове Ніны Шамочак і біялогіі Наталлі Фомчанка Пракуратура Беларусі просіць Ваенную калегію Вярхоўнага суда, якая вядзе судовы працэс, прызначыць па 3 гады пазбаўлення волі, а члену экзаменацыйнай камісіі па хіміі Ліліі Ганчаровай — 2 гады з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Двум бацькам, якія абвінавачваюцца ў дачы хабару, дзяржаўнае абвінавачванне просіць вызначыць тэрмін, які яны правялі ў следчым ізалятары, — 6 і 4 месяцы адпаведна. І восьмы ўдзельнік крымінальнага працэсу — пасярэднік пры перадачы ўзнагароджання, на думку абвінавачвання, павінен быць пакараны папраўча-працоўнымі работамі тэрмінам на 1,5 года.

Абвяшчаючы свае просьбы да суда, дзяржаўнае абвінавачванне лічыць, што судовае следства праведзенае дакладна і ўсебакова, і віна ўсіх абвінавачваемых поўнасцю даказаная.

Каменціруючы пазіцыю пракурораў, абаронцы Бандажэўскага і Раўкова выказалі абсалютна іншыя меркаванні. Адвакаты Аляксандр Баранаў і Дзмітрый Іванішка сцвярджаюць, што судовае следства не высветліла механізм «дапамогі» студэнтам, і за што менавіта бацькі абітурыентаў плацілі замежную валюту, таксама засталося няясным. Абаронцы мяркуюць, што бок абвінавачання, дамагаючыся такога строгага пакарання пры адсутнасці ў справе доказаў віны абвінавачваемых, працягвае выконваць «палітычны заказ».

22 траўня ў спрэчках пачнуць выступаць прадстаўнікі абароны.

Тым часам Еўрапейскі парламент прысудзіў Юрыю Бандажэўскаму Пашпарт свабоды. Ліст з паведамленнем пра гэта, падпісаны дэпутатамі 15 краінаў Еўрасаюза, накіраваны прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку. У ім зазначаецца, што крымінальны пераслед «выдатнага беларускага вучонага» ў сусветных навуковых колах «сустрэў толькі недавер і незадаволенасць». Дэпутаты Еўрапарламента даводзяць, што яны абавязваюцца «аказваць уселякую дапамогу і садзейнічанне ўладальніку дадзенага пашпарта для забеспячэння сваёй бяспекі і свабоды выяўлення», прычым гэта будзе зроблена як асабіста, гэтак і ў рамках прадастаўленых ім палітычных функцыяў. «Мы будзем мабілізоўваць нашы ўласныя меркаванні і аказваць уздзеянні як на нашы ўрады і міжнародныя арганізацыі, гэтак і на зацікаўленыя ўлады вашай краіны», — сказана ў лісце Еўрапарламента.

**БелаПАН**

**ІНТЭГРАЦЫЯ**

## Саюзны сход правядуць у Гродне

Пытанні, звязаныя з дзейнасцю Саюза Беларусі і Расіі, абмяркоўваліся 22 мая на сустрэчы ў Мінску Аляксандра Лукашэнкі са спікерам Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі Генадзем Селязнёвым. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ідзе прапрацоўка шэрагу актуальных пытанняў саюзнага будаўніцтва, якія знаходзяцца пад кантролем дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Паўла Барадзіна. Паралельна ідзе падрыхтоўка да 18-й сесіі Парламенцкага сходу. Лукашэнка і Селязнёў дамовіліся, што месца правядзення сесіі застанецца ранейшым — Гродна.

На сустрэчы таксама абмяркоўваліся ход выканання бюджэту Саюзнай дзяржавы на гэты год і шэраг іншых пытанняў саюзнага будаўніцтва.

**БелаПАН**

# Павел КОЗЛОВСКИЙ: «Хватит дорогостоящих спектаклей!»

*Недавно Белорусское телевидение показало картинки из советского прошлого — в прямой трансляции прошло так называемое Всебелорусское народное собрание. Что увидели в этой трансляции здравомыслящие люди, которые хотят перемен в нашей родной Беларуси? Речь поводыря, скучные лица, вечно что-то одобряющие.*

*Экс-министр обороны Республики Беларусь Павел Козловский, посмотрев в записи съезд, сказал: «Халтура!» Наш корреспондент попросил у П.Козловского интервью в связи с этим мероприятием властей.*

***— Павел Павлович, как вы реагировали, когда включили телевизор?***

— Я бы смеялся, если бы это был спектакль в театре, спектакль, который не влияет на нашу жизнь. Но проблема в том, что этот спектакль нынешние власти пытаются преподнести народу, как нечто, способное решить его проблемы. Но не может решить проблемы мероприятие, где один человек считает себя самым умным, а остальных пытается загнать под коврик, где они будут молчать и бездумно голосовать. Кстати, вы знаете, во сколько это шоу обошлось белорусскому налогоплательщику?

***— Во сколько?***

— По моим подсчетам, не меньше, чем в миллиард рублей — это расходы на проведение региональных собраний и сходов, командировочные расходы, культурное обслуживание, приглашение гостей и так далее. Хватит дорогостоящих спектаклей. Беларуси нужны перемены!

***— Вы говорите о миллиарде рублей. Но Лукашенко все время оперировал в своем докладе только американскими долларами...***

— Этот факт — еще один результат его деятельности и деятельности всех его многочисленных правительств. Люди перестали доверять национальной денежной единице — рублю. Это настоящая беда. Когда лидер нации видит в каждом гражданине США, в каждом гражданине Великобритании или Франции врага и потенциального шпиона, а оперирует только их денежными единицами... Где же его национальная гордость? И оправданы ли такие космические расходы на нелегитимные собрания в бедной стране? Не оправданы.

***— В чем, на ваш взгляд, нелегитимность...***

— Лукашенко заявил этим делегатам, что, мол, «ваши полномочия сохраняются еще на пять лет». А какие полномочия? Где. скажите, в Конституции прописаны полномочия некоего Всебелорусского собрания. Нет такого органа.

***— Что же тогда делать? Как руководителю государства реализовать обратную связь с нами, с избирателями?***

— Использовать мировой опыт. Жизненно важно в самое ближайшее время восстановить нормальное, принятое во всем мире, разделение властей, когда принятием законов занимается парламент, а реализацией этих законов — исполнительная власть, которую сейчас, к несчастью, возглавляет Лукашенко. И возглавляет, как признает большинство, неэффективно. Как воздух нужна свободная, независимая пресса, которую в настоящее время давят и, фактически, стараются уничтожить. А, кстати, вы вынесли из последней «всебелорусской сходки» одно немаловажное наблюдение?

***— Какое?***

— Будущий бывший президент все время говорит о прошлом: об СССР, о прелестях социализма, о пятилетках, все время требует бурных, продолжительных аплодисментов в ответ на свою речь. Это уже было. Но не это сегодня волнует людей.

***— А что же их волнует?***

— Будущее. Я часто встречаюсь с людьми в городах и в деревнях, и вижу — все хотят перемен. Любая бабушка в Пуховичах или в Ганцевичах скажет вам сегодня, что устала от безденежья, от неустроенности детей, от непрекращающейся трескотни по телевизору и радио, от бессилия чиновников решить ее проблемы...

***— Выступающие на подобных форумах многого не договаривают...***

— Они не договаривают главного, читая заранее отрепетированные и отредактированные начальством речи. Людям сегодня просто не на что жить. Согласно многочисленным социологическим опросам за последний год, только 10.9% считают, что их материальное положение улучшилось, у 38.4% оно не изменилось, у 27% оно ухудшилось, у 23.6% ухудшилось значительно. Это ли не показатель неэффективности проводимой в стране политики? И это только за последний год! Почему никто из делегатов последней «всебелорусской сходки» об этом не сказал? Никто даже не приподнялся в ответ на предложение нынешнего премьера Ермошина выступить и высказать свои критические замечания. Дивное единодушие!

***— Такое единодушие наблюдалось, похоже, только в эпоху Иосифа Виссарионовича...***

— И это печально. Время Сталина отмечено в истории кроме повального единодушия, как продукта тоталитарной системы, еще и массовой нищетой, и, самое главное, массовыми репрессиями в отношении мирного населения. Эти времена не должны повториться. Мы этого не допустим. И, вы знаете, основное впечатление от просмотра заседания последнего лукашенковского съезда — это ощущение опустошения. Сказано много, но ответов на волнующие вопросы нет. Появляются только новые вопросы. Жаль одного — времени, которое нужно тратить не на болтовню, а на реформы в государстве...

***— Но Лукашенко обещает к 2005 году зарплату в 250 долларов. Как вы думаете, народ поверит очередным обещаниям?***

— Наш народ уже научился понимать, что все обещания Александра Григорьевича — очередной блеф. Он же сам, в конце концов, признался, выступая с трибуны собрания, что «мы вчера не смогли, и сегодня не можем». А значит, не смогут и завтра.

**Интервью взял Александр СИЛИЧ**

# Пусть сербы сами судят Милошевича

**Шломо Авинери, директор Института европейских исследований**

*Многое из того, что случилось в Югославии за последнее время, удивительно. Например, то, что после первой неудачной попытки Слободана Милошевича арестовали без кровопролития, однако не без риска.*



Сербии и ее новым властям предстоит принять кардинальное решение о том, следует ли выдать Милошевича Гааге. Существует, казалось бы, всеобщее согласие, что это следует сделать, и для того, чтобы президент Коштуница пошел на уступки, к нему применяется международное давление. Это решение может иметь жизненноважные последствия для будущего Сербии. Многие, кто согласен с тем, что Милошевич является военным преступником, сейчас считают, что необходимо прислушаться к мнению Белграда, к призыву, что Милошевича должны судить югославские граждане.

Конечная моральная ответственность за все, что было сделано Милошевичем, лежит на сербах. Они привели его к власти, хотя и не тем путем, который в точности соответствует демократическим нормам; они поддерживали его даже тогда, когда он вел их к преступлениям геноцида, к поражению за поражением. В конце концов, они свергли его, и новое демократическое руководство Белграда осуществило арест, не подвергая свое положение и репутацию риску. Этот арест вполне мог бы кончиться кровопролитием, что дестабилизировало бы новое демократическое правительство.

Милошевича должны судить его собственные граждане, а не международный трибунал. Так судебный процесс приобретет больше законности и доверия, особенно среди тех многих сербов, которых еще нужно просвещать, чтобы они осознали истинный объем преступлений, совершенных их руководителем. Более важным является то, что при рассмотрении судебного дела Милошевича в Югославии сербам, многие из которых поддерживали его режим, придется переоценить свое прошлое поведение и иметь дело со своей совестью. Только пройдя через этот процесс, Сербия вновь сможет присоединиться к свободным и процветающим европейским странам.

Если этим делом будут заниматься судьи, сидящие в далекой от Белграда стране, которые применяют не совсем понятный и в какой-то степени абстрактный свод законов, многие сербы будут рассматривать это не как судебный процесс над Милошевичем, а как правосудие, вершимое победителями над сербской нацией.

Международный призыв к тому, что Милошевича надо судить в Гааге, является неблагоразумным и в какой-то степени неискренним. В конце концов, миротворческие силы в Боснии могли, если бы они решили действовать, арестовать Радована Караджича и генерала Ратко Младича, лидеров боснийских сербов, которым было предъявлено обвинение Гаагским трибуналом. Они этого не сделали и, по-видимому, не собираются делать.

Почему же такое бездействие? Очевидно, в основе этого лежат политические причины: британское, американское и французское правительства не хотят рисковать жизнью своих солдат для того, чтобы эти архипреступники предстали перед правосудием.

© Project Syndicate, 2001

# NASA не гарантирует спасение астронавтам

Американское аэрокосмическое агентство *NASA* после годового исследования не нашло эффективного способа обеспечения безопасного покидания космического корабля *space shuttle* в случае аварии на наиболее опасных этапах полета – взлете и посадке.

Как передает *CNN*, один из основных проектов, согласно которому предполагается оборудовать корабли катапультируемыми капсулами, имеет большое количество недостатков. Значительно снижается вес полезной нагрузки корабля и объем грузового отсека. Стоимость работ оценивается более чем в $1 млрд. При этом время на переоборудование каждого из четырех кораблей составит около полутора лет. Вероятно, в период строительства МКС, связанный с интенсивным использованием кораблей, до 2006 года *NASA* вообще откажется от реализации этой программы.

Средства аварийного покидания не были предусмотрены при создании корабля *space shuttle*. После гибели экипажа корабля *Challenger* в 1986 году были внесены незначительные доработки в конструкцию, малоэффективные по своей сути. В то же время американцы имеют опыт по созданию подобных систем. Корабли *Mercury* и *Apollo* были оборудованы спасательными капсулами с реактивным приводом. Российские корабли «Союз» также имеют средства аварийного покидания, которые дважды доказали свою эффективность в реальных условиях.



# Кошелек Билла Клинтона

*На этой неделе бывший президент США Билл Клинтон начинает турне с лекциями по Британии, которое продлится 13 дней и в результате которого он заработает более 800 тысяч долларов. Клинтон, конечно же, выступит в Оксфорде, где он в свое время учился, на литературном фестивале в городишке Хэй-он-Уай, в университете Куинс в Белфасте и еще в нескольких местах.*

Лекция Клинтона обычно длится около часа, и за этот час он в поте лица зарабатывает в среднем 100 тысяч долларов. Это – в Америке. Если за границей, то обычно больше.

Продолжая увлекательный разговор о доходах бывшего президента, можем сообщить, что на прошлой неделе он выступал: в понедельник — в Осло (150 тысяч), во вторник — в Стокгольме (120 тысяч), в среду — в Вене (100 тысяч), в четверг — в Варшаве (100 тысяч).

Вашингтонские наблюдатели полагают, что в этом месяце Билл Клинтон заработает не менее миллиона.

Кроме того, по словам Роберта Барнетта, литературного агента и адвоката Клинтона, бывший хозяин Белого Дома готовится подписать контракт на свои мемуары, по которому он получит аванс в более чем 8 миллионов долларов.

Как сообщает британский «Обсервер», в довершение ко всему Билл Клинтон начал переговоры с Си-эн-эн о том, чтобы вести на этом телеканале ток-шоу типа знаменитого Ларри Кинга. По оценкам людей знающих, эта работа может принести Клинтону 15 миллионов в год.



### Куда идут деньги?

Билл Клинтон страдает материальной заинтересованностью прежде всего потому, что за ним имеется должок в четыре миллиона долларов. Должен он адвокатам, которые защищали президента в ходе скандала с Моникой Левински.

В общей сложности история с Моникой обошлась Клинтону в 11,3 миллиона долларов, из которых семь с половиной миллионов он уже выплатил. Не следует также забывать, что в настоящее время ведется расследование по поводу помилований нескольких американцев, о которых Билл Клинтон объявил в последний день своего президентства.

Президентские индульгенции вызвали недоуменные вопросы общественности и, что гораздо важнее, компетентных органов. А это значит, что Клинтону будут нужны деньги. Много денег.

### Счастье — в любимой работе

Многочисленные поездки бывшего президента США за рубеж объясняются, конечно, не только его финансовыми интересами. Он явно скучает по своей старой работе и никак не хочет привыкать к спокойной жизни 54-летнего пенсионера.

Как отмечают близко знающие Клинтона люди, он испытывает физическое удовлетворение от общения с толпой. В четверг в Варшаве в него запустил яйцом активист антиглобалистского движения. Клинтон, в отличие от британского зам. премьер-министра Джона Прескотта, не полез в драку, а улыбнулся и заметил: «Хорошо, когда у молодых людей есть причина испытывать злобу».

Клинтон не берет деньги с каждого встречного. В марте, например, 12-летним брату и сестре Аманде и Джонатану Швебелям, живущим в штате Нью-Йорк по соседству с Клинтонами, понадобилась помощь с домашней работой: им надо было подготовить рассказ о том, как современные технологии влияют на повседневную жизнь американцев. Они обратились за помощью к соседу — просто написали ему записку.

Вечером того же дня Билл Клинтон заглянул на огонек и, раскачиваясь в кресле-качалке, рассказал о возрастающей зависимости общества от лэптопов и мобильных телефонов, а также почему-то о своих проблемах с техникой игры в гольф.

**Александр ВАСИЛЬЕВ**
**BBC**

## Взрыв на химическом заводе в Германии

На химическом заводе корпорации *BASF* в западногерманском городе Людвигсхафен произошел взрыв, который привел к возникновению пожара, сообщает *Associated Press*.

В результате этого над заводом повисло облако ядовитого газа, от которого пострадали более 100 человек: 50 детей из близлежащей школы и детского сада и от 50 до 60 рабочих завода.

У всех пострадавших отмечены химические поражения кожи, слизистой оболочки глаз и дыхательных путей. По словам официальных представителей, все пострадавшие находятся в удовлетворительном состоянии.

В то же время работники корпорации *BASF* известили прочих жителей Людвигсхафена о возможной опасности и посоветовали им запереться в домах окна, а после того, как облако уйдет в сторону, вымыть водой все детские игрушки и мебель, находившиеся на улице.

По словам заводской администрации, причина взрыва пока неизвестна. Газ, вырвавшийся наружу, вырабатывается при производстве стирального порошка.

**Марина НОСОВА**

## Америка отказывается от медных монет

Согласно плану, предложенному конгрессменом Джимом Колбом, в США должны быть отменены медная мелочь, а также купюры достоинством 1 доллар, сообщает *US News and World Report*.

По мнению Джима Колба, все цены должны быть по возможности округлены, чтобы можно было пользоваться исключительно никелевыми монетами в 25 центов и выше.

Одновременно конгрессмен предлагает увеличить выпуск банкнот достоинством в 2 доллара.

Сторонники сохранения медной мелочи в США обвиняют Джима Колба в лоббировании интересов владельцев торговых автоматов, а сам конгрессмен, в свою очередь, заявляет, что его оппоненты куплены производителями «бумаги и чернил».

**Александр ПОЧУЕВ**

## Засуха уничтожила рис

Сильнейшая засуха, обрушившаяся на Северную Корею в марте, нанесла непоправимый ущерб 30 тыс. га сельскохозяйственных угодий, практически полностью уничтожив урожай риса. Об этом сообщило РИА «Новости» со ссылкой на представителей правительства в Пхеньяне.

По их словам, в некоторых районах, где посадки риса обычно происходят в мае, сельские жители не могут приступить к работам из-за отсутствия воды, необходимой для выращивания этой культуры. От засухи также пострадали посевы кукурузы и пшеницы, что привело к значительному снижению производства продуктов питания.

С марта в большинстве районов Северной Кореи выпало лишь 18% от среднего количества осадков.

**Максим ПОЛЯКОВ**

## Заразил? Попадешь за решетку

В Эстонии вынесен первый приговор за заражение СПИДом, сообщает ИТАР-ТАСС. 51-летний египтянин Самир Давадрус, являющийся гражданином Дании, признан виновным в попытке преднамеренного заражения СПИДом жительницы Таллина, с которой он около года назад познакомился по объявлению. Суд приговорил Давадруса к трем годам тюрьмы.

О том, что Давадрус болен, стало известно в полиции, задержавшей его при попытке скрыться с вещами, прихваченными из квартиры, которую он снимал. В камере ему стало плохо, сделанные анализы показали наличие ВИЧ-инфекции. Обвиняемый первоначально только в краже, задержанный признался, что уже около трех лет болен СПИДом.

**Константин СОРОКИН**

## Талибы пометят индусов

В понедельник руководство движения «Талибан» издало указ, согласно которому индусы, живущие в Афганистане, обязаны носить желтые одежды: мужчины – тюрбаны, а женщины – чадру. Кроме того они должны постелить перед домами двухметровые желтые дорожки. Указ запрещает индусам строить новые храмы.

По сведениям агентства *Reuters*, в министерстве иностранных дел Индии заявили, что подобные действия талибов оскорбительны и являются дискриминацией.

К месту вспомнить, что в Европе в годы Второй мировой войны нацисты заставляли евреев носить на одежде желтую звезду.

**Игорь БОРУК**

## Армия отстреливает боевиков

Македонские военные уничтожили группу из 15 албанских боевиков



В понедельник македонская армия уничтожила в районе города Куманово группу албанских террористов численностью 15 человек, склад боеприпасов, несколько укреплений и две машины, сообщает РИА «Новости» со ссылкой на слова армейского представителя Благои Марковского.

По словам Марковского, македонские военнослужащие вели оборонительные действия, отвечая на хорошо скоординированные провокации боевиков. Когда террористы попытались приблизиться к позициям правительственных сил, против них, кроме артиллерии, танков и стрелкового оружия, были применены боевые вертолеты Ми-24.

Положение в этом регионе, отметил армейский представитель, остается «очень сложным», главным образом, из-за присутствия в удерживаемых экстремистами селах мирных жителей, которых боевики используют в качестве живого щита.

Между тем, по словам корреспондентов *Reuters*, основные события в понедельник развернулись в окрестностях сел Вакчинце и Слупчане. Там действительно шли ожесточенные бои с применением танков и вертолетов. Однако, передают западные журналисты, о потерях с обеих сторон ничего точно не известно.

В частности, как заявил им по телефону албанский полевой командир по кличке Сокол, никто из боевиков в понедельник не пострадал, однако от огня македонских правительственных сил погибли 5 местных жителей.

**Илья СТАКОВИЧ**

# 10 гадоў «Нашай Ніве»

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*



«Наша Ніва» ж павінна была прасоўваць у масы ідэю беларушчыны – прычым, на высокім інтэлектуальным і літаратурным узроўні.

Ад самага пачатку ўзніклі сур'ёзныя праблемы з рэгістрацыяй газеты. С.Дубавец тады пераехаў у Вільню, у яго з'явілася віленская прапіска.

Ужо тады, у 1991 годзе, Дзяржаўны камітэт па друку не рэгістраваў газету, бо, паводле закона, газета не магла быць заснаваная замежным грамадзянінам.

***— Як увогуле будаваліся напачатку стасункі паміж «Нашай Нівай» і дзяржавай?***

— На той час СВАБОДА была ўжо легальным выданнем, мы выпускалі яе ў Магілёўскай друкарні.

А вось «Наша Ніва» не мела яшчэ легальнага статусу, і таму мы вырашылі надрукаваць яе ад імя кааператыва, які быў заснаваны Саюзам прадпрымальнікаў Беларусі. Я там быў начальнікам.

Паўсюль адмаўляліся друкаваць першы нумар «Нашай Нівы», і мы вырашылі адвесці яго ў Баранавіцкую друкарню.

Быў падрыхтаваны нумар. Сяргей Дубавец, Сяргей Харэўскі і я завезлі паперу ў друкарню, прывезлі макет нумара.

У Баранавічах у той час якраз было нейкае свята горада, прымеркаванае няведама да чаго.

Баранавіцкая друкарня месцілася акурат у цэнтры горада. І ў час, калі мы вывозілі гатовы першы нумар газеты, працуючы скакалі на цэнтральную плошчу. Падумалася тады, што вакол такая саветчына, такая дурасць, а мы робім зусім іншую справу, справу будучыні.

Мы вырашылі адзначыць паспяховы выпуск першага нумара, пайшлі дахаты да маіх бацькоў – я сам з Баранавічаў – і першым, хто павіншаваў нас з выпускам «Нашай Нівы», быў мой бацька.

Першы нумар распаўсюджваўся без праблемаў, але на той час яшчэ не існавала такой жорсткай залежнасці ад таго, было выданне легальнае або не.

Мы былі ўзгадаваныя на падпольным друку, на падпольным распаўсюджванні. Яшчэ надта добра дзейнічаў БНФ, працавалі прыватныя распаўсюднікі, якія прайшлі добрую школу распаўсюджвання газетаў «Навіны БНФ» і СВАБОДА, нелегальных улётак...

Таму першы нумар, надрукаваны накладам 999 асобнікаў, разышоўся практычна ўвесь. У мяне з тых часоў засталіся 2 асобнікі першага нумара.

***— Чым для вас быў выпуск «Нашай Нівы»? Якую задачу ставілі перад сабой?***

— Ужо тады было ясна, шо гэта – падзея. Думаю, што газета адыграла сваю ролю, сур'ёзную ролю.

«Наша Ніва» меркавалася як газета для эліты. Эліту неабходна было вучыць, што рабіць на карысць Беларусі.

Першы нумар атрымаўся больш літаратурна-архіўны. У ім быў рэдакцыйны артыкул Сяргея Дубаўца пра тое, што газета зноў нарадзілася, быў артыкул Сяргея Астраўцова пра ягоныя дзіцячыя ўражанні аб уводзе войскаў у Чэхаславаччыну, былі Уладзя Арлоў, Адам Глёбус. Сяргей Дубавец пісаў пра адраджэнне, пра новую канцэпцыю газеты, пра планы «Нашай Нівы».

***— Наколькі суадносілася тая «Наша Ніва» ўзору пачатку мінулага стагоддзя і «Наша Ніва» адроджаная ўзору пачатку 90-х гадоў?***

— Газета якраз меркавалася як працяг беларускай традыцыі ў прэсе. Меркавалася спрабаваць адрадзіць тое, што зрабіла першая «Наша Ніва». Для гэтага яе па сутнасці і адраджалі.

***— Наколькі ўдалося ўтрымацца ў гэтым рэчышчы? Ці можна сёння, праз 10 гадоў, лічыць гэты праект паспяховым?***

— Тая «Наша Ніва» выдавалася з 1907 па 1916 гады, 9 гадоў. Гэтая ўжо праіснавала 10 гадоў, і думаю, што будзе існаваць далей.

На сучаснай «Нашай Ніве» ўсё ж такі ўзгадавалася пакаленне беларускіх інтэлектуалаў. Маладых, цяперашніх.

Дзякуючы гэтай газеце і тым падзеям, што разгорталіся вакол яе, яны сталі беларусамі і цяпер могуць працаваць на карысць нашай краіны.

Я думаю, што гэта найважнейшая справа, якую зрабіла газета. Не толькі, канешне, яна, але «Наша Ніва» сур'ёзна дапамагала гэтай справе.

Мы стварылі новую газету. Яе канцэпцыя істотна адрознівалася ад ідэалагізаванай савецкай прэсы, але таксама адрознівалася і ад падпольнага друку, які заклікаў на барыкады і да змагання. Гэта ні ў якім разе не была і «жоўтая» прэса. Гэта была спроба знайсці ўсё новае, маладое, інтэлектуальна развітае, еўрапейскае – і паспрабаваць гэта ўсё прышчапіць да нашага грамадства, каб грамадства ведала, што такое існуе.

У «Нашай Ніве» друкаваліся найлепшыя ўзоры беларускай літаратуры гэтага часу, найлепшыя пераклады, якія не былі зробленыя раней, – напрыклад, твораў Габрыэля Гарсія Маркеса...

Але гэта была не проста навіновая газета. «Наша Ніва» прадстаўляла навіны інтэлектуальныя. Там была філасофія, літаратура, вершы, некаторыя навіны ўсё ж былі, паліталогія, аналітыка... Ішлі абмеркаванне і выпрацоўка шляхоў развіцця Беларусі.

Усе падзеі і з'явы падаваліся з пункту гледжання беларускага светапогляду. Гэтая задача была асноўнай – зрабіць цэнтрам свету Беларусь, і менавіта з гэтага пункту гледжання падаваць усе падзеі, якія адбываюцца, ідэі, якія нараджаюцца.

Выпрацоўваўся сапраўдны беларусацэнтрызм – каб ён стаў ідэяй грамадскага светапогляду. Каб у грамадстве пачала жыць і віраваць ідэя, што Беларусь – гэта краіна ў цэнтры Еўропы, і ўсё адбываецца вакол яе.

Яшчэ адна ідэя — прасоўванне менавіта беларускай мовы – тарашкевіцы, на якой газета друкуецца і цяпер. У той час увесь андэграўнд – усе падпольныя, усе апазіцыйныя, усе нефармальныя выданні ў Беларусі – яны ўсе друкаваліся тарашкевіцай. Найбольшага поспеху тут дасягнула газета СВАБОДА, якая да 1995 года друкавалася выключна тарашкевіцай і мела наклад 90.000 асобнікаў. Потым часы змяніліся. Але я і цяпер лічу, што гэта не вельмі правільна, калі адбыўся пераход да «наркамаўкі». Такім чынам СВАБОДА сышла з абранага шляху, і я лічу, што на гэтым яна шмат згубіла.

***— Як вы ацэньваеце тыя змены, якія напаткалі «Нашу Ніву» на працягу апошніх гадоў?***

— Любы працэс трэба глядзець у развіцці. Памяняўся склад аўтараў газеты, памяняўся склад яе кіраўніцтва. Газета стала больш даступнай для шырокай публікі. Яна зрабілася больш ухіл у бок моладзі.

«Наша Ніва» згубіла пры гэтым налёт элітарнасці, яна больш надае ўвагі падзеям і палітычным каментарам, звязаным з актуальным момантам. Менш стала асэнсаванняў нашага жыцця, шляхоў выйсця або філасофскага развіцця ідэяў беларускасці.

Але ўсё роўна «Наша Ніва» зараз – някепская газета. Адзінае, чаго не стае – накладу. Але гэта звязана, хутчэй, з цяперашнім момантам і з тым, што ўся наша прэса знаходзіцца ў заняпадзе. Не хапае фінансавання. Адчуваецца ціск уладаў. Уся незалежная прэса існуе сёння ў жахлівых умовах. Акупацца зараз газеты такога кшталту, як «Наша Ніва», не могуць у прынцыпе. А спонсарскай дапамогі не стае.

Але што б там ні было, склад аўтараў прыстойны, добры. Газета можа развівацца. Яна адрозніваецца, канешне, ад той «Нашай Нівы», якая была дзесяць гадоў таму, якую рабіў С.Дубавец. Але яна не згубіла сваёй прывабнасці, не згубіла сваёй адметнасці.

У «Нашай Нівы» пакуль няма канкурэнтаў. Яе нельга параўнаць ні з "Літаратурай і Мастацтвам», ні з «Нашым Словам», не кажучы ўжо пра «Звязду» або «Народную Волю».

Яна займае сваю надта адметную нішу, і ў яе заўсёды будуць чытачы. У «Нашай Нівы» – добрыя перспектывы.

**Інтэрв'ю браў**
**Міхась КАРПОВІЧ**

# Народные представления о настоящем и будущем

Продолжаем публикацию опроса НИСЭПИ, проведенного в апреле текущего года.

Хотя пророссийские настроения в обществе по-прежнему довольно сильны, суверенитет и независимость в глазах подавляющего большинства белорусов выступают в качестве безусловной ценности. Об этом свидетельствуют и данные табл. 10 – по сравнению с предыдущим опросом почти на 12 % уменьшилась численность тех, кто лучшим вариантом отношений России и Беларуси считает объединение в одно государство. Более чем на 10 % выросли ряды тех, кто лучшим вариантом назвали добрососедские отношения двух независимых государств. На такую же величину уменьшилось число убежденных сторонников интеграции. И только 16.1 % опрошенных высказали мнение, что наилучшим будущим для Беларуси является вхождение в состав России (вступление в Евросоюз поддерживают 21.5 %).

Поддерживая интеграцию как идею, белорусы весьма критично относятся к тому, как эта идея сегодня осуществляется на практике. Почти 28 % указали, что Союз улучшил жизнь только чиновников, которые работают в его руководящих органах и только 9.8 % назвали его реально действующей структурой, улучшившейся жизнь рядовых белорусов и россиян.

**ЕСЛИ БЫ СЕГОДНЯ ПРОХОДИЛ РЕФЕРЕНДУМ ОБ ОБЪЕДИНЕНИИ БЕЛАРУСИ И РОССИИ, КАК БЫ ВЫ ПРОГОЛОСОВАЛИ, %**

| Варианты ответа | 03.99 | 11.99 | 04.00 | 11.00 | 03.01 | 04.01 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| За объединение | 41.8 | 47.0 | 55.7 | 54.4 | 58.8 | 56.6 |
| Против объединения | 40.4 | 34.1 | 27.6 | 28.9 | 26.0 | 28.4 |
| Не принял бы участия в голосовании | 14.7 | 15.6 | 15.6 | 15.9 | 12.5 | 14.6 |
| ЗО/НО | 3.1 | 3.3 | 1.1 | 0.8 | 2.7 | 0.4 |

**ХОТЕЛИ ЛИ БЫ ВЫ, ЧТОБЫ БЕЛАРУСЬ БЫЛА СУВЕРЕННЫМ, НЕЗАВИСИМЫМ ГОСУДАРСТВОМ?**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Да | 69.3 |
| Нет | 10.7 |
| ЗО/НО | 20.0 |

**КАКОЙ ВАРИАНТ ВЗАИМООТНОШЕНИЙ БЕЛАРУСИ И РОССИИ ПРЕДСТАВЛЯЕТСЯ ВАМ НАИЛУЧШИМ, %**

| Вариант ответа | 09.98 | 11.99 | 08.00 | 11.00 | 03.01 | 04.01 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Добрососедские отношения двух независимых государств | 50.8 | 43.2 | 37.7 | 40.6 | 27.9 | 38.4 |
| Союз независимых государств | 28.1 | 30.5 | 37.2 | 29.2 | 31.2 | 33.7 |
| Объединение в одно государство | 20.1 | 24.1 | 22.5 | 27.5 | 38.3 | 26.5 |
| Иное/ЗО | 1.0 | 2.2 | 2.6 | 2.7 | 2.6 | 1.4 |

**КАКОЕ БУДУЩЕЕ ДЛЯ БЕЛАРУСИ ВЫ СЧИТАЕТЕ НАИЛУЧШИМ?**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Беларусь должна быть в Союзе с Россией, но оставаться при этом суверенным государством | 37.2 |
| Беларусь должна вступить в Европейский Союз | 21.5 |
| Беларусь должна войти в состав России | 16.1 |
| Беларусь должна оставаться нейтральным суверенным государством, не вступающим ни в какие политические союзы | 11.2 |
| ЗО/НО | 14.0 |

**КАКИЕ НАИБОЛЕЕ ВАЖНЫЕ ПРЕИМУЩЕСТВА, НА ВАШ ВЗГЛЯД, ДАЕТ НАШЕЙ СТРАНЕ СОЮЗ БЕЛАРУСИ И РОССИИ?** *(возможно более одного ответа)*

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Экономические преимущества | 50.3 |
| Обеспечение безопасности | 32.4 |
| Политические преимущества | 23.4 |
| Культурные преимущества | 22.4 |
| Социальные преимущества | 16.2 |
| Союз не дает никаких преимуществ | 15.7 |
| Другие | 0.8 |
| Ничего не слышал об этом Союзе | 1.3 |
| ЗО | 18.5 |

**СОЮЗУ РОССИИ И БЕЛАРУСИ 2 АПРЕЛЯ 2001 г. ИСПОЛНИЛОСЬ 5 ЛЕТ. В ОТНОШЕНИИ СОЮЗА ВЫСКАЗЫВАЮТСЯ РАЗНЫЕ МНЕНИЯ. С КАКИМ ИЗ НИХ ВЫ СОГЛАСНЫ?**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Союз остался только декларацией о намерениях, никак не отразившейся на жизни белорусов и россиян | 35.1 |
| Союз улучшил жизнь только чиновников, которые работают в его руководящих органах | 27.9 |
| Союз – реально действующая структура, улучшившая жизнь рядовых белорусов и россиян | 9.8 |
| Ничего не слышал об этом Союзе | 2.7 |
| ЗО/НО | 24.5 |



Фота IREY/ProMedia

**ДИНАМИКА ЧИСЛЕННОСТИ УБЕЖДЕННЫХ СТОРОННИКОВ И ПРОТИВНИКОВ ИНТЕГРАЦИИ С РОССИЕЙ *, %**

| Социальные типы | 03.99 | 11.99 | 04.00 | 06.00 | 08.00 | 10.00 | 03.01 | 04.01 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Убежденные сторонники интеграции | 23.5 | 20.1 | 24.0 | 37.0 | 21.0 | 28.9 | 36.4 | 25.8 |
| Убежденные противники интеграции | 28.3 | 26.1 | 21.7 | 14.5 | 20.8 | 15.9 | 16.0 | 21.8 |

**Убежденные сторонники – это те, кто на референдуме будет голосовать за объединение Беларуси и России в одно государство, и лучшим вариантом двусторонних отношений считает объединение в одно государство. Убежденные противники – те, кто на референдуме намерен голосовать против объединения, а лучшим вариантом двусторонних отношений считает добрососедские отношения двух независимых государств*

# Паралельныя краіны

*У той час, калі ўвесь адданы народ слухаў кожнае слова, углядаўся ў любы да шчымлення ў сэрцы суворы твар...*

У той час, на жаль, былі вычварэнцы, чэрствыя, бяздушныя людзі, здольныя займацца ў такі адказны момант асабістымі справамі. Гэткіх набралася, на жаль, амаль дзесяць мільёнаў. Вінаваты, ваш карэспандэнт быў сярод іх. Бачыў іх, закапочаных здароўем уласных дзяцей, вопраткай, ежай, вадой і паветрам, сонцам і шчасцем, каханнем і марамі, працай і вершамі – безліччу дробненькіх бязглуздых рэчаў, што перашкаджаюць кіраваць дзяржавай па вертыкалі, гарызанталі і дыяганалі.

У сваёй шалёнай нянавісці да прагрэсу некаторыя з тых, што не глядзелі тэлевізара і не слухалі радыё, калі гэта трэба было рабіць у мэтах умацавання грамадскай бяспекі, яны нават выказваліся ў тым сэнсе, што злыя блюдалізы падсунулі добраму чалавеку нейкія не такія лічбы. Гэтыя гультаі і медыяненавіснікі казалі, што не вырас іхны жыццёвы ўзровень. Адкуль яны могуць ведаць сапраўдныя таямнічыя ісціны? Замест таго каб ціскаць дзевак і піпкі на сваіх камп'ютэрах, ехалі б у калгас і жылі як людзі.

Адкрыццё, як заўсёды, прыйшло нечакана. У прамове не лічбы падмянілі. Прыхаваныя БНФаўцы, сектанты і замежныя шпегі ўсім нам вядомых дзяржаваў выкралі з яе фрагмент пра Вольную Беларусь.

Насамрэч справа вось у чым. Усенародная наша перамога ў 1994 годзе мусіла быць абароненай. На сакрэтным сходзе ў мястэчку Крэва былі складзеныя гэтак званыя «Пратаколы беларускіх мудрацоў». Паводле іх, каб абдурыць ворагаў, пачалі ствараецца адразу дзве беларускія дзяржавы: адна падманная — дзеля паказу агентам Крамля (г. Масква-Цэнтральная) і Белага Дома (Вашынгтон, акруга Калумбія), а другая — для нас з вамі, шаноўныя чытачы.

У той, падманнай РБ няма амаль нічога беларускага, але не думайце, што там і астатняга скора не будзе. Возьмем, напрыклад, продаж некаторых рэчаў у г.зв. «официально учтённых предприятиях» РБ. У 1991 г. там прадалі 638.200.000 кг мяса і мясапрадуктаў, альбо 63 кілі на «официально учтённого» чалавека, а летась 317.700.000 кг. Атрымліваецца нібыта ў два разы меней. Але ж кожны з нас добра ведае, што стаў жэрці мяса ўдвая болей. Дзе мы гэта робім? У Вольнай Беларусі, халера, пад знакам Пагоні!

Асабліва яскрава пра тое сведчыць спажыванне каўбас. Усім вядома, што пакінутыя дзеля падманнай імітацыі РБ героі-разведчыкі, каб абдурыць знешняга і нутранога ворага, змагаюцца за савецкую каўбасу па 2.20 руб., альбо 1,4 у.е. па курсе ДБ СССР. Дык вось зніжка па купленым мясе складае афіцыйна тры разы за дзесяць гадоў, а па каўбасах – 10%.

Тое самае можна сказаць пра малако і малочныя вырабы, у прыватнасці масла, але не варта занадта грузіць чытачоў, бо кажам праўду.

Прыведзеныя дадзеныя сведчаць пра рэзкае зашчасліvenne жыцця ў абодвух краінах: відавочнай і той, патаемнай. У мясным вымярэнні Вольнай Беларусі яно ўдвая лепшае, чым у РБ. Возьмем дзеля параўнання дадзеныя сумнавядомага НІСЭПД ім. палкоўніка Гэлбрайта, што на вул. Маскоўскай (так!). Там разлічылі, што правільна галаснуць гатовыя нават пад NATAўскімі бомбамі 35% насельніцтва.

Што атрымліваецца. 35% насельніцтва спажывае 317.700.000 кг афіцыйна ўлічанага мяса і мясапрадуктаў (гл. вышэй), то бок – па 91 кілі на чалавека, альбо на 35% болей, чым ў 1991 годзе. А астатнія 65% насельніцтва, схаваныя ў Вольнай Беларусі, струшчылі па 159 кг на брата (гэтак сама глядзі вышэй). Чаго ім не радавацца?

Вось вам і тлумачэнне поўнай ісціннасці кожнага слова ва ўсялякай афіцыйнай прамове пра поспехі РБ. Вось вам і тлумачэнне поўнай адсутнасці барыкадаў, дэманстрацыяў і пікетаў пратэсту падчас Акрэсцінскай турэмнай эпапеі лідэра свірэпых неаБНФаўцаў В.Вячоркі. Няма чаго і казаць пра спадзяванні некаторых прафесійных адмарозкаў на масавыя акцыі працоўных ці іхны пратэст супраць нацдэмаўцаў і д.т.п. пачвараў. Не атрымаецца. Паспрабуйце самі выйсці на пікет, з'еўшы кілю мяса і запіўшы яе трыма літрамі піва «Крыніца».

Думаю, што пасля гэтай сенсацыйнай публікацыі пачнецца вялікая сустрэчная міграцыя асобаў, каторыя з-за хуткасці і сакрэтнасці аперацыі памылкова апынуліся ў РБ і, адпаведна, у Вольнай Беларусі. Мы шчаслівыя, што здолелі дапамагчы суграмадзянам дазнацца пра сапраўдны стан рэчаў і вярнуцца ў звычныя дзеля іх асяродкі існавання.

Адзіная просьба. Беларусы, не давайце гэтай газеты агентам замежных дзяржаваў і іншым нядобразычліўцам, бо гаворка тут вядзецца выключна пра нашыя нутраныя справы.

Схілім жа галовы перад подзвігам герояў-імітатараў РБ і велічу іхных здзяйсненняў. А потым можна выпіць і закусіць.

**Эдвард ЖАБКОЎСКІ**

## Гаспадаркі пацярпелі ад стыхіі

У выніку ўраганнага ветру, які абрынуўся на Брэсцкую вобласць 18-19 траўня, з дахаў дамоў і фермаў былі сарваныя 1.260 лістоў шыферу, пацярпелі 130 гектараў збожжавых, адключаныя дзве трансфарматарныя падстанцыі. Паводле інфармацыі прэс-службы ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці, сіла ветру дасягнула 20 метраў у секунду. Ураган «прайшоўся» па Бярозаўскім, Ляхавіцкім, Камянецкім, Пружанскім, Баранавіцкім, Івацэвіцкім, Іванаўскім і Драгічынскім раёнах. Асабліва пацярпелі гаспадаркі Бярозаўскага раёна. Напрыклад, у вёсках Баркі, Міхалкі, Горск, Ястрабель, Угляны і Хрысы пашкоджаныя лініі электраперадачаў; у калгасе «Знамя» палеглі збожжавыя культуры на 130 гектарах і гэтак далей.

Апроч таго, чатыры раёны Брэсцкай вобласці — Ганцавіцкі, Баранавіцкі, Лунінецкі і Івацэвіцкі — пацярпелі ў выніку замаразкаў, якія адзначаліся на мінулым тыдні. Паводле звестак прэс-службы абласнога ўпраўлення МНС, слупок тэрмометра ў асобныя ночы апускаўся ад 2 да 7 градусаў марозу, а ў калгасе «Расія» Ганцавіцкага раёна — да 18 градусаў марозу. Больш за іншыя пацярпелі калгасы і саўгасы Ганцавіцкага раёна. Напрыклад, у калгасе імя Кірава пашкоджаныя 1.060 гектараў пасеваў; у калгасах «Рассвет», «Расія» і «Адраджэнне» загінулі вялікія плошчы цукровых і кармавых буракоў, аднагадовых траваў, расады капусты. Усяго ж па вобласці больш за ўсё загінула ячменю — 1.273, азімага жыта — 790 гектараў, аўсу — 446 гектараў, збожжабабовых — 296 гектараў.

**БелаПАН**

## Поспех у вытворчасці чарнілаў

Вытворчасць пладова-ягадных вінаў мае найбольшы тэмп росту аб'ёмаў вытворчасці ў сферы харчовай прамысловасці Магілёўскай вобласці. Паводле звестак статыстыкі, у студзені-красавіку 2001 года, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, аб'ёмы вытворчасці гэтага напою склалі 765,7 працэнта.

У той жа час вытворчасць гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў за чатыры месяцы бягучага года скарацілася амаль на 40 працэнтаў, піва — на 42,2, безалкагольных напояў — на 33,2 працэнта.

Што да іншых відаў харчовых тавараў, то ў адзначаны перыяд (у параўнанні з паказчыкамі мінулага года) у вобласці больш выраблена мяса птушкі, сасісак, тлустых сыроў, крухмалу і цвёрдавэнджаных каўбас, менш — ялавічыны і свініны, вараных каўбас, натуральнамалочнай прадукцыі, масла і хлебабулачных вырабаў.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Адзіны падатак для індывідуальных прадпрымальнікаў

*У Беларусі ўводзіцца адзіны падатак з індывідуальных прадпрымальнікаў. Адпаведны дэкрэт «Аб увядзенні адзінага падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асобаў, якія ажыццяўляюць рэалізацыю тавараў, работ (паслугаў), і аб некаторых пытаннях, звязаных з названай дзейнасцю» — падпісаў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

Плацельшчыкі адзінага падатку вызваляюцца ад уплаты падаходнага падатку з фізічных асобаў; падатку на дададзены кошт, за выключэннем падатку, які ўплачваецца індывідуальнымі прадпрымальнікамі на тавары, увозімыя на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь; падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічнага падатку); мясцовых падаткаў і збораў.

Адзіны падатак будуць плаціць індывідуальныя прадпрымальнікі, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства пры рэалізацыі фізічнымі асобамі работ (паслугаў), а таксама пры рознічнай рэалізацыі імі праз нестацыянарную гандлёвую сетку і пункты дробнарознічнага гандлю (акрамя магазінаў) тавараў, названых у прыкладзеным да дэкрэта пераліку. Адзіны падатак абавязаны плаціць грамадзяне Беларусі, якія не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, пры разавай (несістэматычнай) рэалізацыі выробленых, перапрацаваных або набытых імі для рэалізацыі на рынках тавараў згодна з пералікам.

У пераліку тавараў (работ, паслугаў) — 34 пазіцыі. Сярод іх — рознічны гандаль півам і тытунёвымі вырабамі (ад 50 да 150 еўра ў месяц), хлебам і хлебабулачнымі вырабамі, малаком і малочнай прадукцыяй, бульбай, агароднінай, пладамі, ягадамі, кавунамі, дынямі, вінаградам (15-45 еўра), адзеннем з натуральнага футра і натуральнай скуры, мэбляй, дыванамі і дывановымі вырабамі, складанымі бытавымі электратаварамі (50-150), аўтамотатранспартнымі сродкамі (60-180), друкаванымі выданнямі (10-30), рамонт бытавых тавараў і прадметаў асабістага карыстання (12-36), вытворчасць кіна- і відэапрадукцыі па заказах грамадзянаў (25-75), урачэбная і зубаўрачэбная практыка (15-45) і г.д. Адзіны падатак уплачваецца ў беларускіх рублях зыходзячы з устаноўленага Нацыянальным банкам курсу еўра да беларускага рубля, дзеючага на першы дзень месяца, у якім ажыццяўляецца выплата падатку. Сумы адзінага падатку поўнасцю залічваюцца ў бюджэты абласцей і горада Мінска.

Абласныя і Мінскі гарадскі саветы дэпутатаў павінны ў месячны тэрмін устанавіць стаўкі адзінага падатку ў межах базавых ставак у залежнасці ад населенага пункта, у якім ажыццяўляецца дзейнасць плацельшчыкаў адзінага падатку; месца ажыццяўлення дзейнасці гэтых асобаў у межах населенага пункта; аддаленасці гэтага месца ад прыпынкаў пасажырскага транспарту і г.д.

Дэкрэт прадугледжвае магчымасць зніжэння ставак адзінага падатку: для грамадзянаў, упершыню зарэгістраваных у якасці індывідуальных прадпрымальнікаў, — на 25 працэнтаў у першыя тры месяцы з дня атрымання імі пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі; для індывідуальных прадпрымальнікаў — пенсіянераў па ўзросце або інваліднасці — на 20 працэнтаў. Пры наяўнасці адначасова некалькіх падставаў для льготаў устаноўленая стаўка адзінага падатку паніжаецца на 45 працэнтаў. У той жа час пры рэалізацыі некалькіх відаў тавараў (работ, паслугаў), названых у пераліку, выплата адзінага падатку робіцца па тым відзе тавараў (работ, паслугаў), па якім устаноўленая найбольш высокая яго стаўка.

Пры рэалізацыі невырабленых у Беларусі тавараў (акрамя падакцызных тавараў, якія падлягаюць маркіроўцы акцызнымі маркамі) да ўстаноўленай стаўкі падатку прымяняецца павышальны каэфіцыент 1,3 незалежна ад удзельнай вагі гэтых тавараў у асартыменце. Пры гэтым тавары, што паходзяць з трэціх краінаў і выпушчаныя ў свабодны абарот у Расіі (за выключэннем падакцызных тавараў, якія падлягаюць маркіроўцы акцызнымі маркамі), не падлягаюць мытнаму афармленню пры ўвозе на тэрыторыю Беларусі індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Пры ажыццяўленні дзейнасці менш чым 15 дзён у каляндарным месяцы памер адзінага падатку вызначаецца шляхам памнажэння ўстаноўленай стаўкі адзінага падатку на каэфіцыент 0,04 і на колькасць дзён ажыццяўлення дзейнасці. Пераразлік (вяртанне або залік) адзінага падатку робіцца ў выпадку часовага неажыццяўлення дзейнасці індывідуальным прадпрымальнікам (працяглацю не больш чым 30 каляндарных дзён у годзе). Фактычна прадпрымальнікі атрымліваюць права на адпачынак без фінансавых выдаткаў.

Акрамя таго, індывідуальныя прадпрымальнікі могуць ажыццяўляць прыём наяўных грашовых сродкаў без выкарыстання адрыўных талонаў і касавых суміруючых апаратаў. Аднак гэта не вызваляе іх ад выдачы спажыўцам таварнага чэка або іншага дакумента, які пацвярджае куплю тавараў, выкананне работ (аказанне паслугаў).

Няўплата або няпоўная ўплата адзінага падатку цягне за сабой накладанне санкцыяў у двайным памеры стаўкі адзінага падатку, устаноўленай у населеным пункце, дзе ажыццяўляецца дзейнасць. У адпаведнасці з дэкрэтам права прымяняць санкцыі маюць упаўнаважаныя службовыя асобы органаў Дзяржаўнага падатковага камітэта.

Дэкрэт прадпісвае аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму «ў трохмесячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць праграмы, якія прадугледжваюць пытанні развіцця рынкаў, арганізацыі месцаў гандлю для індывідуальных прадпрымальнікаў, паэтапны пераход іх у абуладкаваныя памяшканні з прадастаўленнем поўнага комплексу паслугаў, і перш за ўсё разлікова-касавых».

Як сказана ў дэкрэце, адзіны падатак уводзіцца «ў мэтах стварэння спрыяльных умоваў для развіцця індывідуальнага прадпрымальніцтва, забеспячэння сацыяльных гарантыяў індывідуальным прадпрымальнікам, іншым фізічным асобам, удасканальвання парадку іх падаткаабкладання».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

КАНФЕСІІ

## Праграма візіту Аляксія II у Беларусь

БелаПАН стала вядомая праграма візіту ў Беларусь маскоўскага патрыярха Аляксія II, запланаванага на 23-27 чэрвеня. Свой візіт у Беларусь патрыярх распачне з Брэста. У першай палове дня 23 чэрвеня самалёт прызямліцца ў Брэсцкім аэрапорце, дзе кіраўніка Рускай праваслаўнай царквы сустрэнуць афіцыйныя асобы дзяржавы і члены Беларускага сінода. Адтуль Аляксій II накіруецца ў брэсцкі Свята-Сімяонаўскі кафедральны сабор, дзе возьме ўдзел у набажэнстве і ажыццявіць асвячэнне стаўратэкі, у якую будзе ўкладзеная для захоўвання копія Крыжа Еўфрасінні Полацкай. У гэты ж вечар Аляксій II наведае Свята-Мікалаеўскую царкву горада. 24 чэрвеня кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы асвяціць Свята-Васкрасенскі храм-помнік, пабудаваны ў гонар 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Тут жа запланаваная яго сустрэча з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Затым будзе асвячоны помнік «Вартавым мяжы». У другой палове дня 24 чэрвеня адбудзецца сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Аляксіем II, мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, патрыяршым экзархам усяе Беларусі і членамі сінода Беларускай праваслаўнай царквы. Візіт у Брэст завершыцца ўрачыстым прыёмам у гонар прыбыцця патрыярха ад імя Аляксандра Лукашэнкі.

Далей Аляксій II накіруецца ў Пінск. 25 чэрвеня Аляксій II сустрэнецца з духавенствам Пінска-Лунінецкай епархіі і ажыццявіць асвячэнне Свята-Фёдараўскага сабора, затым наведае Дом міласэрнасці. 25 чэрвеня ў другой палове дня патрыярх адправіцца ў Гомельскую вобласць. Па дарозе ён спыніцца ў некаторых храмах Столінскага раёна. Увечары гэтага ж дня ён прыбудзе ў Тураў. На 26 чэрвеня запланаванае наведванне турмы ў Мазыры, новага храма, ускладанне вянка да помніка ахвярам Чарнобыля. У Хойніках найсвяцейшы патрыярх наведае жаночы манастыр.

На 27 чэрвеня на мяжы Беларусі, Расіі і Украіны запланаваная яшчэ адна сустрэча патрыярха з Аляксандрам Лукашэнкам. Менавіта тут у якасці дару беларускага народа Аляксію II будуць уручаныя харугвы для маскоўскага Храма Хрыста Збавіцеля. Пасля набажэнства патрыярх вернецца ў Маскву.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Маці Божая Казельская

*З'яўленне гэтага унікальнага абраза звязанае з трагічнымі падзеямі пачатку Другой сусветнай вайны. 1 верасня на Польшчу напалі немцы, а 17 верасня польска-савецкую мяжу перакрочыла Чырвоная Армія (на Беларускім і Украінскім франтах мела агулам каля мільёна салдатаў, 2.000 танкаў і 1.500 самалётаў). Войска польскае на загад камандавання не аказвала маштабнага супраціву.*

Таму, па афіцыйных звестках, страты савецкіх войскаў склалі 740 чалавек забітымі, 1.860 параненымі. З польскага боку ў палон патрапілі болей за 70 тысяч салдатаў і афіцэраў. Сярод іх бальшыня была ўраджэнцамі Заходняй Беларусі і Віленшчыны. Сорак тысяч шэрагоўцаў былі адпушчаныя з палону па сваіх вёсках і мястэчках. Афіцэраў і малодшы камандны склад не выпусцілі анікога. Для гэтага разраду ваеннапалонных савецкі НКУС падрыхтаваў некалькі канцэнтрацыйных лагераў – у Казельску, Асташыне, Старабельску. Значную частку трымалі па розных турмах у Беларусі.

У Казельску 4,5 тысячы вязняў размясцілі ў зачыненым бальшавікамі праваслаўным манастыры. Усе гэтыя палонныя з 3 па 13 красавіка 1940 года былі масава расстраляныя нкусаўцамі ў Катынскім лесе. Такі ж лёс напаткаў і вязняў Асташына і Старабельска. Таксама па падліках даследчыкаў, каля 4 тысяч палонных афіцэраў польскай арміі былі забітыя і пахаваныя ў брацкіх магілах у Курапатах.

Адначасна з Заходняй Беларусі ў тыя ж самыя расстрэльныя дні вывезлі ў Казахстан і Сібір сем'і замардаваных, якім пісалі ліст з лагера муж, бацька ці брат. Такім чынам, гэтыя людзі з няволі сталі спісам адрасатаў для наступных рэпрэсіяў. Разам са старымі і немаўлятамі за два дні ў таварных вагонах «выселілі» болей за 60 тысяч чалавек заходнебеларускага насельніцтва. Пра лёс сваіх родных у Казельску сем'і не ведалі.

Праз два месяцы замест знішчаных афіцэраў казельскі канцлагер атрымаў другую хвалю палонных – зноў жа афіцэраў, паліцыянтаў, вайскоўцаў, ад якіх НКУС вычышчаў Беларусь і Літву. Да таго ж 29 чэрвеня 1940 года з савецкай Беларусі карныя органы вывезлі 23 тысячы тых палякаў і беларусаў, хто ратаваўся сюды з нямецкай зоны акупацыі Польшчы. Іх размяркоўвалі па лагерах («шпіёны і дывэрсанты»), і ў Казельскі лагер таксама.

У лагеры панавала рэпрэсіўная дысцыпліна, забараняліся любыя праявы рэлігійнасці. Бальшыня вязняў была каталікамі, і яны маліліся не толькі індывідуальна, але праводзілі ў таямніцы ганульную мшу, бо сярод зняволеных былі і капеланы (вайсковыя святары).

У такіх варунках сярод казельскіх вязняў выспела прага мець уласны, лагерны абраз Маці Божай. Духоўнымі творцамі лагернага абраза сталі поручык Тадэвуш Бірэцкі і віленскі журналіст Валеры Харкевіч. Яны вырашылі стварыць новы абраз, але каб ён абавязкова спалучаў знаёмыя ўсім рысы двух цудадзейных святыняў радзімы – Вострабрамскай Панны Марыі і Маці Божай Жыровіцкай. Як ні дзіўна, яе выява захоўвалася на рэштках фрэскі манастырскай царквы, адведзенай нкусаўцамі пад барак вязням.

Дошкай для абраза стала старадаўняя ікона, якую лагернае начальства здзекліва прыстасавала як накрыўку на бочку з гнілымі селядцамі. Эскіз каронаў для Маці Божай і Сына Божага праектаваў Т.Бірэцкі. Эскіз абраза цалкам выканаў вядомы мастак-графік Мікалай Арціпэўскі. Сам абраз на дошцы выразаў Тадэвуш Зялінскі, які здолеў надаць постацям глыбокі драматызм. Эскіз рук мадонны зрабіў паручык Генрых Патоцкі. Вось ля гэтага абраза, які нагадваў пра радзіму, пра яе галоўныя святыні, таямніча маліліся вязні канцлагера.

Першы раз адкрыта і ўрачыста Маці Божая Казельская паказалася ў палявым алтары падчас набажэнства 25 жніўня 1941 года ў Гразоўцы каля Волагды. Ішла вайна, вязняў перавялі з Казельска на Валагодчыну. Ім пашанцавала застацца ў жывых, хоць маглі забіць. На тэрыторыі Беларусі палітычных вязняў (а ўсе ваеннапалонныя лічыліся «палітычнымі») нкусаўцы расстрэльвалі без суда, як тое было, прыкладам, у Чэрвені, дзе пры адступленні перад немцамі савецкія карнікі забілі некалькі тысяч чалавек.

Перамовы польскага эміграцыйнага ўрада з Масквой далі той вынік, што Сталін пагадзіўся стварыць з ваеннапалонных польскі корпус для барацьбы з гітлераўцамі. 25 жніўня ў Гразоўку прыехаў вызвалены з турэмнага зняволення польскі генерал Уладзіслаў Андэрс. Ён стаў стваральнікам корпуса з ваеннапалонных 1939 года. У корпус добраахвотна пайшло шмат беларусаў-каталікоў. Вось з 25 жніўня Маці Божая Казельская сталася не толькі суцяшальніцай для ахвяраў бальшавіцкага генацыду, а і апякункай вольных салдатаў новастворанага корпуса. Абраз знаходзіўся ў капліцы штаба Андэрса, ён прайшоў па ўсіх баявых шляхах, дзе змагаўся корпус. Перад гэтым абразом маліліся салдаты, калі змагаліся з немцамі ў Афрыцы, перад бітвай каля старажытнага манастыра Монтэ Касіна ў Італіі, дзе аддалі свае жыцці 250 нашых землякоў.

Пасля вайны па мабілізацыі арміі Андэрса абраз Маці Божай Казельскай апынуўся ў Англіі, у лонданскім касцёле св. Андрэя Баболі (першага каталіцкага святога ў Беларусі).

Маці Божая Казельская лічыцца нябеснай апякункай усіх, хто прайшоў Галгофу сібірскіх канцлагераў у часе вайны і пасля яе, а такіх было сотні тысячаў. І ўсіх, хто страціў там родных, хто плакаў аб іх, хто ніколі больш не ўбачыў твары родных людзей. І тых, хто змагаўся за волю на франтах.

8 чэрвеня 1997 года папа Іаан Павел II каранаваў абраз, што ўяўляе акт гонару і ўдзячнасці да ўсіх, каго абраз Маці Божай Казельскай духоўна аб'ядноўваў, каму ён мацаваў веру ў будучыню і ўзвышаў сэрца.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ**



# Беларускі турызм хутчэй мёртвы, чымсьці жывы

*У 2000 годзе адпачынак за мяжой прывабіў 1 мільён беларусаў, і толькі 60 тысячаў замежных турыстаў наведалі нашу краіну. Навідавоку тое, што існуючая ў нас турыстычная інфраструктура не задавальняе нават беларусаў, не кажучы ўжо аб «разбэшчаных» камфортам замежніках.*

Які немец пагодзіцца жыць у Бярэзінскім запаведніку за 72 долары на суткі ці ў гатэлі «Юбілейным» за 32 долары, калі каля хаты пад Прагай яму абыдзецца за суткі не больш за 20 доляраў. Толькі аматараў экзатычнага баўлення часу з Еўропы прываблівае Браслаўскія азёры, уздоўж якіх няма пляжаў, у гатэлі – гарачай вады, увечары – асвятлення вуліц, забаўляльнай інфраструктуры і крамаў. Ва ўсёй краіне няма ні пяцізоркавага гатэля, ні поля для гульні ў гольф.

Ва ўсіх культурніцкіх ці адпачынкавых установах існуюць 3 віды коштаў, якія залежаць ад паходжання наведвальніка – так званы «дзяржаўны рэкет» супраць замежнікаў, які ўрад пакуль і не збіраецца адмяніць. Увогуле вялікія кошты і адсутнасць сэрвісу ўжо сталі негатыўнай візітоўкай турыстычнай Беларусі. Таму не здзіўляе, што нікому не патрэбныя нашы ваўчэры для прыёму замежных турыстаў, кошты на іх упалі ўдвая, і турыстычны канцэрн «Белінтурыст» за 2 гады панёс страты ў 8 тысячаў доляраў, рэалізаваўшы толькі палову іх.

Па словах выконваючага абавязкі дырэктара бюро падарожжаў і экскурсіяў «Мінсктурыст» Аляксандра Закіса, кошты дыктуюць базы адпачынку, а надвышка турыстычных фірмаў да іх не болей 8-10%. Тое, што кошты не адпавядаюць той якасці паслугаў, якая прад'яўляецца да іх за мяжой, разумеюць і базы. Але ў гэтай сітуацыі ніхто не хоча саступаць першым, бо ўлетку на базы ўсё роўна прыязджаюць, а мінскія гатэлі, нягледзячы на кошты, запаўняюцца на 65%.

Змяніць сітуацыю можа толькі прыватны капітал. Амаль уся інфраструктура адпачынку зараз належыць 3-4 дзяржаўным арганізацыям і прафсаюзам. А акрамя таго, што ў іх не стае грошай для яе развіцця і ўдасканальвання, дык яшчэ з савецкіх часоў захавалася абыякавае стаўленне да ўласнасці. Таму і паўстае неабходнасць дазволу ўкладаць прыватны капітал у стварэнне і развіццё альтэрнатыўнага адпачынку і сэрвісу. Прыватны сектар у гэтай сферы можа пазбавіць дзяржаву вялікіх грашовых тратаў, пашырыць базу адпачынку і турызму, а таксама знізіць завышаныя кошты на гэтыя паслугі. Сёння па краіне налічваецца 518 фірмаў, якія працуюць у сферы турызму. Але, як канстатаваў А.Закіс, паколькі яны зараз пазбаўленыя магчымасці ўкладання грошай у Беларусі, асноўная іх дзейнасць накіраваная на замежны турызм.

Тым не менш, нейкія спробы задзейнічаць капітал турфірмаў робяцца. Прыкладам, зараз вядуцца перамовы з вядучымі турапэратарамі ў краіне аб укладанні іх сродкаў у рэстаўрацыю палаца Сапегаў у Ружанах, каб потым яны маглі выкарыстоўваць гэты аб'ект у турыстычных мэтах. Такім жа чынам дом Ваньковіча ў Мінску плануецца задзейнічаць як гасцявы дом. Акрамя таго, у раёне вакол спорткомплексу Раўбічы бліжэйшым часам магчыма стварэнне свабоднай эканамічна-рэкрэацыйнай зоны для прыцягнення капіталу ў сферу адпачынку праз ільготы ў падаткаабкладанні. Наогул сёння па Беларусі налічваецца 15.000 помнікаў гісторыі і культуры, дзе маецца відочная неабходнасць стварыць нейкую інфраструктуру (стаянка машын, прыбіральня, крамы), каб тым самым зарабляць грошы.

Са словаў галоўнага кансультанта ўпраўлення турызму міністэрства спорту і турызму Мікалая Чырскага, праз два гады ў абавязковым парадку будзе праведзеная сертыфікацыя турыстычных паслугаў і паслугаў гатэльных комплексаў. Гэта дасць магчымасць знізіць завышаныя кошты турыстычных паслугаў і ацаніць сэрвіс і камфорт гатэляў у адпаведнасці з сусветнымі стандартамі.

Што тычыцца экскурсійных тураў па Беларусі, то, па словах дырэктара бюро падарожжаў і экскурсіяў «Мінсктурыст» А.Закіса, на іх апошнім часам рэзка павялічыўся попыт, у асноўным сярод школьнікаў. Самыя папулярныя маршруты – да Міру, Нясвіжа, Полацка, Гродна, Слоніма і Жыровічаў. Акрамя таго, для школьнікаў арганізаваны экскурсійны тур па краіне, для якога «Мінсктурыст» арандаваў цэлы цягнік. Ён праедзе з 26 па 30 траўня праз Гомель, Гродна і Брэст. Улічваючы беларускія карані многіх сусветнавядомых дзеячаў, у асноўным з Ізраіля, для замежнікаў распрацоўваюцца і так званыя этнічныя туры праз Моталь і Пінск, стаіць пытанне і аб стварэнні этнакультурных цэнтраў у нацыянальных парках.

**Алена ЛАБАНАВА**



Фота Ул. ШЛАПАКА

## Утвораны ландшафтны заказнік


Фота Ул.ШЛАПАКА

Пастановай Савета міністраў Беларусі ўтвораны рэспубліканскі ландшафтны заказнік «Траскоўшчына». Новы заказнік плошчай 796,5 гектара размешчаны на тэрыторыі Мінскага раёна ў межах водазаборнай плошчы вытокаў ракі Іслач. Як паведамілі БелаПАН, заказнік створаны ў мэтах захавання унікальнага ландшафтнага комплексу, які характарызуецца біялагічнай разнастайнасцю і знаходзіцца ў стане ўстойлівай дынамічнай раўнавагі. Ахоўваемая тэрыторыя ўяўляе сабой чаргаванне масіваў лесу і сельскагаспадарчых угоддзяў, падзеленых транспартнай сеткай, сельскімі населенымі пунктамі і воднымі аб'ектамі — ракой Іслач, ручаямі і меліяратыўнымі каналамі.

Гэты запаведнік — кавалачак жывой прыроды, які захаваўся сярод шчыльна заселеных і інтэнсіўна выкарыстоўваемых прастораў. У яго пейзажы спалучаюцца масівы разнастайных па форме і тыпе лясоў натуральнага паходжання, шматлікія балоты і лугі, чэргі ўзгоркаў і катлавінаў, старадаўнія лагчыны сцёкаў і западзінаў, маляўнічыя даліны рэкаў і ручаёў.

Захаванне ў натуральным стане лясных масіваў заказніка не толькі дазволіць падтрымаць у ім біяразнастайнасць, але і дасць магчымасць значна аздаравіць экалагічную абстаноўку вакол Мінска, а таксама палепшыць гідралагічныя ўмовы для вытокаў ракі Іслач.

Паводле звестак на 1 студзеня гэтага года, дзяржаўны прыродны запаведны фонд краіны займаў 1.533 тысячы гектараў (7,4 працэнта тэрыторыі краіны). Сярод ахоўваемых тэрыторыяў — 1 біясферны запаведнік, 4 нацыянальныя паркі, 94 запаведнікі рэспубліканскага і 443 — мясцовага значэння, а таксама 786 помнікаў прыроды рэспубліканскага і мясцовага значэння.

**Марат ГАРАВЫ**

## Малпа застрашыла сталіцу Індыі

Паліцыя Дэлі ўжо некалькі дзён беспаспяхова намагаецца злавіць малпу (ці нешта на яе падобнае), якая даводзіць шматмільённае насельніцтва індыйскай сталіцы да стану панікі. Паўтораныя кожным чуткі пра начныя «забаўкі» агрэсіўнай жывёліны стварылі ў горадзе атмасферу страху. Апошнім вынікам агульнай запанікаванасці ледзь не стала забойства невінаватага чалавека . Раз'юшаны натоўп у начной цемры збіў мужчыну, які быў на падпітку, палічыўшы яго за малпу. Па словах гаспадара магазіна ў адным з дэлійскіх раёнаў, яго пасярод ночы разбудзілі жахлівыя крыкі суседа аб дапамозе, які чамусьці вырашыў, што ягонага сына выкрала махнатая страшыла. Па словах гандляра, ён, прачнуўшыся, убачыў на даху цень. Тады і ён залямантаваў і разам з іншымі суседзямі пабег на вуліцу, дзе ўсе схапілі нешта чалавекападобнае. Яно было апранутае ва ўсё чорнае, а ў легкавіку, у які хацела схавацца гэтая істота, убачылі чорную каску. Усе назіральнікі «малпы» разыходзяцца ў сваіх апісаннях яе знешняга выгляду. Адны бачылі невысокага мужчыну, адзенне якога рабіла яго падобным на малпу з каскай на галаве. Іншыя – істоту пад два метры росту з ззяючымі зялёнымі вачыма і металічнымі лапамі. Аднак выкліканы паліцэйскі патруль засведчыў, што істота, якую збіваў насмерць натоўп, была грамадзянінам, які вяртаўся дамоў з гулянкі. Баючыся будзіць жонку і даваць тлумачэнні, п'яны хацеў ціхенька прабрацца ў свой дом. Дзякуючы абароне паліцыі ён застаўся жывы і нарэшце патрапіў у сваю кватэру праз дзверы.

У гэты ж час па ўсіх раёнах індыйскай сталіцы групы добраахвотнікаў, узброеныя палкамі і нажамі, патрулююць вуліцы ў пошуках ваяўнічай малпы ці пераапранутага ў яе чалавека. У сувязі з адсутнасцю ясных звестак пра справы таямнічай малпы паліцыя прызначыла ўзнагароду ў памеры 50 тысяч рупій (1.063 долары) за дакладную інфармацыю. На працягу папярэдняга тыдня газеты з задавальненнем паведамлялі, што ў горадзе дзейнічае маларослая пачвара з чалавечымі нагамі і мордай малпы. Яна нібыта нападае ўначы на грамадзянаў, чапляецца ім у валасы, хапае за ногі, а калі ахвяры пачынаюць лямант, у момант невядома куды знікае. Ветэрынары, якія аглядалі пацярпелых ад знаёмства з малпай, лічаць аднак, што драпіны на іх целе нанесеныя металічным прадметам, а не кіпцюрамі жывёлы.

У сваю чаргу высокапастаўленыя індыйскія чыноўнікі заявілі, што чуткі пра ваяўнічую малпу запушчаныя ў народ антыдзяржаўнымі элементамі на заказ спецслужбаў Пакістана, каб сапсаваць настрой дэлійскай паліцыі.

А пакуль што сотні тысяч жыхароў Дэлі, узрушаныя пагалоскамі пра страшылу, калектыўна пазбаўленыя добрага сну.

**Яўген ГАРЭЛІК**

# Фауна пад ружжом

*Паводле Закона аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету, «паляваннем прызнаюцца пошук, адсочванне і пераслед з мэтай здабычы, спробы здабычы альбо здабыча звяроў і птушак, што жывуць у стане натуральнай волі».*

Зараз у Беларусі прыдатнымі і адкрытымі для палявання лічацца 16,9 мільёна гектараў зямель. 39% гэтых абшараў складаюць лясы, 54% — палі, 7% — водабалотная тэрыторыя. Не падпадаюць пад статус паляўнічых угоддзяў, напрыклад, 27 біялагічных заказнікаў (так званыя рэзерваты) плошчай 370 тысячаў гектараў, прадугледжаныя для захавання пэўных відаў фауны. Таксама забаронена паляванне вакол вялікіх гарадоў, прамысловых пунктаў і месцаў адпачынку — гэта яшчэ паўмільёна гектараў. Сюды ж адносяць нацыянальныя паркі, дзе пад паляўнічую справу аддадзены толькі некаторыя ўчасткі.

Праўда, тут ажыццяўляюцца захады па рэгуляванні колькасці жывёлаў на тэрыторыях, дзе яны жывуць занадта шчыльна. Гэта робіцца, як і на звычайным паляванні, пры дапамозе стрэльбаў, а таксама адловам. Потым злоўленых асобінаў перасяляюць у тыя мясціны, дзе тая ці іншая папуляцыя сустракаецца рэдка. Працэс гэты называецца рэкліматызацыяй. У прыватнасці, так робяць з аленямі, якія зараз распаўсюджаны па тэрыторыі Беларусі досыць няроўна, хоць гадоў 300 таму іх было надзвычай багата паўсюдна.

Як, дарэчы, і іншых дзікіх жывёлаў. На сёння колькасць жывёлаў у беларускіх лясах і ў рэках можна падлічыць толькі даволі прыкладна. Як кажа намеснік начальніка ўпраўлення лясной і паляўнічай гаспадаркі міністэрства лясной гаспадаркі Віктар Карогвіч, робіцца гэта ўзімку па слядах, а пагрэшнасць пры падліках складае 15-20%. Цяпер па апошніх дадзеных у краіне жывуць сярод парнакапытных 15.000 ласёў, 6.000 аленяў, 30.000 кабаноў, 47.000 касуляў. Што да больш дробных жывёлін, то ў лесе беларусы могуць напаткаць каго-небудзь з 220.000 зайцоў, 41.000 лісаў, 21.000 куніцаў. Беларускія лясы насяляюць таксама блізу 200 рысяў і 100 мядзведзяў. Але і рысі, і мядзведзі занесеныя ў Чырвоную кнігу, таму паляваць іх няможна.

А вось ваўкоў – наадварот. Гэта нават заахвочваецца. Як вядома, гэтыя драпежнікі ўяўляюць з сябе вялікую небяспеку іншым дзікім, а то і хатнім жывёлам, асабліва маладняку. Зараз іх у беларускіх лясах каля 1,5 тысячы, і спецыялісты ўважаюць такую колькасць ваўкоў за норму. Некалькі гадоў назад ваўкоў развялося замнога – удвая болей, чымсьці ёсць зараз, і прымаліся захады па скарачэнні іх колькасці, бо пачала падаць колькасць усіх астатніх відаў жывёлаў. Для паляўнічых прадугледжаны нават прэміі за адстрэл ваўкоў, грошы на якія ідуць са спецыяльнага фонду міністэрства прыродных рэсурсаў. За дарослага ваўка яна складае 10 мінімальных заробкаў, за ваўчаня – 7 «мінімалак». У некаторых мясцінах ёсць патрэба прарэджваць пагалоўе баброў (дарэчы, кошты на іх з прыкладна 100 долараў за шкурку ўпалі ад савецкіх часоў дзесьці ў 5 разоў). Баброў забіваюць, бо іхняя працавітасць часта абарачаецца стратамі для лясной і сельскай гаспадаркі. Шкодзяць і кабаны. З 15 траўня сёлета іх дазволена паляваць, бо зараз яны робяць набегі на пасевы (на астатніх парнакапытных сезон адкрыецца ўвосень).

Менавіта з гэтых прычынаў і дзеля кантролю за станам папуляцыяў ліміты па забойстве дзікіх жывёлаў засталіся, а вось дзяржзаказу на здабычу тых ці іншых прадстаўнікоў фаўны, як даводзяць у мінлясгасе, ужо няма. Тут кажуць, што ён існаваў прыкладна да 1986 года. Па шкурках і па дэлікатэсным мясе, якія адпраўляліся пераважна на экспарт, аднак дзяржплан былі вымушаныя скасаваць у сувязі з аварыяй на чарнобыльскай атамцы, калі за мяжой пачалі пужацца купіць бруднае мяса. Да таго ж настала перабудова, калі бяздумнае знішчэнне жывёлаў дзеля валютных паступленняў было асуджанае.

Мінлясгас арганізоўвае паляўнічую справу толькі на 17% паляўнічых угоддзяў. Усё астатняе аддадзена ў арэнду 170 юрыдычным асобам. 71% належыць Беларускаму таварыству паляўнічых і рыбаловаў. Сярод іншых буйных арандатараў – беларускае ваеннае паляўнічае таварыства, спартовае таварыства «Дынама» і Управа справамі прэзідэнта, якая распараджаецца 4% такіх абшараў. Дзяржаве выгадна, каб паляўнічыя ўгоддзі знаходзіліся на правах арэнды ў розных суб'ектаў гаспадарання. Тое, што яны зарабляюць на арганізацыі там палявання, амаль цалкам растае ў выдатках па ўтрыманні лясоў у належным стане. Па словах В.Карогвіча, арэндная плата за паляўнічыя ўгоддзі сімвалічная, бо арандатары і так «ледзьве зводзяць канцы з канцамі».

За кошт каго можна зарабляць на арганізацыі паляўнічай справы? У Беларусі гэта 130 тысячаў грамадзян з афіцыйным статусам паляўнічага, хоць актыўна гэтым займаецца прыкладна палова з іх. Справа ў тым, што многія выкарыстоўваюць наяўнасць у сябе пасведчання паляўнічага таму, што яно дае права мець і захоўваць дома зброю.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Каб стаць паляўнічым, трэба мець 18 гадоў і медычную даведку, што вы дзеяздольны, але самае галоўнае – неабходна здаць адмысловы іспыт на веданне біялогіі, паляўнічага заканадаўства, правілаў бяспекі на паляванні (штогод у краіне гіне дзесьці паўдзесятка паляўнічых). Але атрыманне пасведчання паляўнічага права на паляванне многіх жывёлаў яшчэ не дае. Каб пайсці з ружжом у лес, трэба набыць спецыяльны разовы дазвол на паляванне жаданай жывёліны, а дзеля гэтага трэба быць больш-менш заможным. Але тут ёсць не толькі абмежаванні для кішэні. Напрыклад, у Правілах палявання ў Рэспубліцы Беларусь ёсць такі пункт: «Дапускаецца планаванне здабычы лася ў лясніцтвах (егерскіх абходах), дзе адзначаецца высокая шчыльнасць насялення віду, у выніку чаго жывёламі наносяцца страты лясным культурам, у аб'ёме 5-10% ад улічанай колькасці».

У асноўным гэта эксклюзіў для высокіх чыноўнікаў і замежнікаў. Менавіта апошнія ёсць галоўнай крыніцай прыбыткаў паляўнічых гаспадарак. Напрыклад, увесну да нас едуць паляваць глушца палякі і немцы. Гэта тлумачыцца, па-першае, тым, што ў нас паляванне абыходзіцца танней, па-другое, многія віды жывёлаў там – рэдкасць. Таго ж глушца ў Польшчы вельмі мала, а ў Нямеччыне – амаль няма (там і трафеяў – каштоўных рагоў і іклаў — не здабудзеш, і кабаны па 60 кілаграмаў супраць нашых, што важаць па 200-300). Прэйскурант для замежных паляўнічых такі: каля 60 долараў на дзень пражывання, 400 долараў за ўпаляванага глушца, 170 – за цецерука. Гэтай вясной толькі ў паляўнічыя гаспадаркі сістэмы мінлясгасу прыязджаў папаляваць 41 замежнік.

У адрозненне ад іх браканьеры – госці нежаданыя. Змагаюцца з імі збольшага спагнаннем штрафаў, хоць за асабліва жорсткія выпадкі браканьерства прадугледжваецца і крымінальная адказнасць. Што да штрафаў за несанкцыянаваны застрэл, то за забітага такім чынам лася, апрача штрафу за паляванне без ліцэнзіі, давядзецца раскашэліцца на 80 мінімальных заработных плат, за бусла – 20, зайца – 10, чаплю – 4, зубра ці мядзведзя – 150, рыся – 60 «мінімалак». Ці не праўда, не дужа шмат? Нездарма зараз рыхтуюцца змены ў паляўнічым заканадаўстве, паводле якіх штраф за лася ўзрасце да 120 мінімальных заробкаў, а за зубра – са 150 да 250, але і гэта падаецца не зусім належным пакараннем.

Хоць бракан'ерства аднымі штрафнымі санкцыямі не выцкуеш. Па-першае, пад пагрозай вялікіх сумаў штрафу парушальнікі пры затрыманні адпаведнымі ахоўнымі службамі рэагуюць неадэкватна, могуць пайсці нават на забойства. Такія выпадкі здараюцца. Па-другое, як кажа намеснік начальніка ўпраўлення лясной і паляўнічай гаспадаркі мінлясгаса Віктар Карогвіч, «калгаснік, якому прызначаць такі штраф, усё адно заплаціць яго не здолее». Так што з браканьерствам у Беларусі варта і эфектыўней за ўсё змагацца падвышэннем узроўню жыцця народа.

**Кірэй МАНУЙЛА**

СПОРТ

# Нарэшце прабіліся ў паўфінал...

Баскетбалісткі зборнай Беларусі паспяхова выступілі ў кваліфікацыйных спаборніцтвах да чэмпіянату Еўропы-2003, якія праходзілі ў Сафіі, хаця ў стартавай сустрэчы «турніру чатырох» і прайгралі гаспадыням пляцоўкі тры ачкі – 79:82.

Затое ў паядынках з камандамі Македоніі, Босніі і Герцагавіны падначаленыя Віктара Бялевіча мелі пэўную перавагу і выйгралі адпаведна з лікам 73:46 і 79:54.

Гэта дазволіла ім заняць у групе другое месца і трапіць у наступны этап, які адбудзецца ў лістападзе. Сціплы, калі называць рэчы сваім імем, поспех, як высветлілася, каштуе для беларускага баскетболу вельмі многа. Таму што ў выніку няўдачы мы б зноў страцілі магчымасць на некалькі гадоў выступаць у афіцыйных міжнародных турнірах. І гэтак ужо было два гады таму, калі ў той жа Балгарыі не здолелі прайсці адборачны турнір і да гэтага часу выбылі з міжнароднага календара.

Увогуле, даволі працяглы перыяд беларускія баскетбалісткі ледзь зусім не зніклі з арэны, хаця дагэтуль вельмі вызначаліся на чэмпіянатах былога СССР (памятаеце мінскі «Гарызонт» пад кіраўніцтвам Сямёна Халіпскага?) і нават мелі алімпійскіх чэмпіёнак Белашапку, Савіцкую, Сумнікаву...

Што зараз перашкаджае паўтарыць той поспех, добра ведаюць спецыялісты іншых гульнявых відаў спорту ў краіне, таго ж гандбола, валейбола, футбола і гэтак далей. Хранічны недахоп фінансавання з боку дзяржавы, пагалоўнае закрыццё дзіцячых секцыяў, зыход трэнераў з-за жабрацкага заробку (напрыклад, настаўнікі з сусветнавядомай школы «Гарызонт» амаль у поўным складзе перайшлі працаваць у адну камерцыйную будаўнічую фірму), зусім не таннае спартыўнае адзенне, адсутнасць спортінвентару, пляцовак – сумны спіс можна працягваць далей – дрэнна адбіваюцца на развіцці папулярнай і амаль народнай гульні. На жаль, усё гэта рэаліі сучаснага беларускага спартыўнага жыцця.

У камандзе Бялевіча сабраліся таленавітыя, маладыя дзяўчаты, якіх не давіць цяжарны груз былых паражэнняў. Праўда, большасць з іх, а дакладна, усе лідэры, павышаюць сваё майстэрства ў чэмпіянатах іншых краінаў, і добра яшчэ, што яны не былі «заіграны» за розныя нацыянальныя зборныя.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1712 Нумар падпісаны ў друк 22/05/2001 (15:00) Наклад – 9.160